• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

14 мая 1996 г. аўторак, №№116 –117 (22919 — 22920)



# ЗВЯЗДА

## ПРЫВІТАННЕ ПРЭЗІДЭНТА З НАГОДЫ МІЖНАРОДНАГА ДНЯ СЯМ'І

Дарагія суайчыннікі!

15 мая 1996 года дзяржавы свету ўжо трэці раз будуць святкаваць Міжнародны дзень сям'і. Гэты дзень шырока адзначаецца і ў Рэспубліцы Беларусь. Факт абвяшчэння Генеральнай Асамблеяй ААН гэтага свята гаворыць аб вялікім значэнні, якое адводзіцца сям'і ў сучасным грамадстве.

Нягледзячы на ўвесь спектр праблем, што наспелі ў дзяржаве, сям'я па-ранейшаму застаецца важнейшым асяроддзем захавання і перадачы з пакалення ў пакаленне культурных каштоўнасцей, нацыянальных традыцый, матэрыяльнай і маральнай падтрымкі дзяцей, састарэлых, інвалідаў.

Няма вузаў больш моцных, чым вузы сям'і. Чалавеку ўласціва жадаць надзейнага тылу ў жыцці, такога месца на зямлі, дзе яго заўсёды чакаюць, з радасцю і любоўю сустракаюць.

Кожная дзяржава ўдзяляе самую пільную ўвагу ахове мацярынства і дзяцінства, умацаванню становішча сям'і ў грамадстве. Мы разумеем, што менавіта гэтыя пытанні з'яўляюцца дамінуючымі, а моцная, здаровая сям'я становіцца гарантам стабільнасці, вызначае патэнцыяльныя магчымасці, рэальныя перспектывы краіны на многія гады наперад.

У такі складаны час дзяржавай, урадам прымаюцца меры па падтрымцы сем'яў з дзецьмі, у тым ліку шматдзетных, няпоўных і тых, што выхоўваюць дзяцей-інвалідаў. Дзеці-сіроты — наш асаблівы клопат.

Без дабрабыту ў кожнай сям'і не будзе дабрабыту ў дзяржаве. Хачу выказаць упэўненасць, што правядзенне Міжнароднага дня сям'і паслужыць павышэнню яе статусу, будзе садзейнічаць лепшаму разуменню яе праблем і патрэбнасцей, прынясцю ўсімі структурамі ўлады мераў па стварэнню ўмоў для жыццядзейнасці, развіцця і ўмацавання сям'і ў Рэспубліцы Беларусь.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
**А. ЛУКАШЭНКА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ВІТАЕ МІЖНАРОДНЫ ПЛЕНЭР

Сардэчна вітаю ўдзельнікаў Міжнароднага пленэру па жывапісу.

Той факт, што месцам для сумеснай творчай працы вы выбралі Магілёўшчыну, радзіму добра вядомага ў нас народнага мастака РСФСР, народнага мастака БССР Вітольда Каэтанавіча Бялыніцкага-Бірулі, сведчыць аб павазе не толькі да яго творчасці, але і да культурнай спадчыны беларускага народа.

Выяўленчае мастацтва было і застаецца дзейсным сродкам фарміравання духоўнасці чалавека. Важную ролю ў гэтай справе выконваюць мастакі Беларусі. Іх сувязь з прадстаўнікамі інтэлігенцыі суседніх дзяржаў паляпшае стан абмену творчым вопытам, спрыяе ўзаемаўзбагачэнню народаў на ніве мастацтва.

Упэўнены, што прыклад удзельнікаў пленэру дапаможа не толькі пашырыць кола аматараў прыгажосці, але і ўмацаваць добрасуседскія сувязі паміж пасланцамі культур, якія маюць гістарычна традыцыйныя карані.

Жадаю, каб прасторы Беларусі натхнілі вас на сцвярджэнне дабра, чысціні чалавечых узаемаадносінаў, павагі да хараства.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
**А. ЛУКАШЭНКА.**

## ПАСТАНОВА

ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб ратыфікацыі Дагавора аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

1. Ратыфікаваць Дагавор аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі, падпісаны ў г.Маскве 2 красавіка 1996 года.
2. Апублікаваць тэкст Дагавора ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

4 мая 1996 г., г. Мінск.
№ 244-XIII



*Анатоль КЛЯШЧУК, фота аўтара*

## ЛЮДЗІ І АБЕЛІСКІ

**501-ы кіламетр Маскоўскай чыгункі. Дубровенскі раён Беларусі. Рыленкі. Зямля тысяч ахвяр вайны, аб якіх сведчаць абеліскі і прозвішчы на плітах... 9 мая Кацярына Казак дваццаць пяты раз наведала месца пахавання свайго мужа — салдата Чырвонай Арміі. Ёй — «пашанцавала». Бо пахавальная, атрыманая яшчэ ў 44-м, мела гэтыя каардынаты...**

(Заканчэнне на 8-й стар.)

## НА «ГАРЫЗОНЦЕ» БУДЗЕ ПРЭЗІДЭНЦКІ САВЕТ ПРАЦОЎНАГА КАЛЕКТЫВУ

**Наведванне Аляксандрам Лукашэнкам вытворчага аб'яднання «Гарызонт» было запланавана яшчэ на 4 мая. Але, як вядома, той дзень Прэзідэнт правёў у парламенце, дзе вырашаліся кадравыя пытанні. Таму рабочы візіт на самае буйное прадпрыемства Беларусі, якое спецыялізуецца на выпуску тэлевізараў і іншай радыёэлектроннай прадукцыі, адбыўся толькі 13 мая.**

Знаходжанне кіраўніка выканаўчай улады на аб'яднанні пачалося з наведвання выставы прадукцыі, якую выпускаюць галаўное прадпрыемства «Гарызонта», НВК «Сігнал», завод «Альмагор». І ўжо тут стала зразумела, што Прэзідэнт завітаў на аб'яднанне зусім не для таго, каб выслухаць чарговую порцыю скаргаў на дрэннае жыццё, на недахоп абаротных сродкаў, на цяжкасці з выплатай заработнай платы. Ён прыехаў для таго, каб пачуць ад кіраўніцтва аб'яднання варыянты выхаду з крызісу, пазнаёміцца з іх бачаннем на сітуацыю. А сітуацыя, у якую трапіла прадпрыемства, сапраўды вельмі складаная. Па-першае, запазычанасць па заработнай плаце складае больш за 10 млрд. рублёў (зарплата выплачана толькі за першую палову лютага). Дарэчы, сёння сярэдні заробак на прадпрыемстве складае 783 тысячы рублёў. Прэзідэнт назваў яго мізэрным і запэўніў кіраўніцтва завода, што ў выпадку калі да студзеня будучага года на «Гарызонце» сярэдні заробак будзе меншы за мільён, размова будзе мець іншы характар. Па-другое, адсутнасць абаротных сродкаў не дазваляе «Гарызонту» пашырыць аб'ём вытворчасці. За чатыры месяцы бягучага года на галаўным прадпрыемстве было выпушчана толькі 20.000 тэлевізараў. Гэта ў той час, калі такая лічба з'яўляецца планавай у маштабе месяца. Тым не менш, нягледзячы на спад вытворчасці, на прадпрыемстве не жадаюць скарачаць колькасць рабочых. Размова ідзе хіба што пра 500 чалавек пенсійнага ўзросту. У цэлым на вытворчым аб'яднанні зараз працуе каля 10 тысяч чалавек, з якіх 5.100 на галаўным прадпрыемстве. Адным з выхадаў з сітуацыі бачыцца арганізацыя дачэрніх фірмаў і перавод туды людзей з ужо існуючых прадпрыемстваў «Гарызонта». Аднак на сустрэчы з працоўным калектывам Прэзідэнт асабліва падкрэсліў, што задача запусціць вытворчасць на поўную магутнасць, зрабіць яе рэнтабельнай і прыбытковай для яго не з'яўляецца галоўнай. «Больш важна не згубіць людзей, якія сёння працуюць на заводзе», — сказаў ён.

**(Заканчэнне на 8-й стар.)**

## «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**Газета «Звязда» 24 мая з 12 да 13 гадзін праводзіць «прамую лінію» з міністрам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Васілём Іванавічам СТРАЖАВЫМ.**

**У дзень «прамой лініі», паважаныя чытачы, мы чакаем вашых званкоў па тэлефонах: 32-38-21 і 32-38-92. Папярэдне задавайце пытанні па тэлефоне 68-28-72. Чакаем і вашых пісьмаў з пытаннямі.**

Якой нам бачыцца жывая гаворка пра лёс адукацыі ў сённяшні час? Нам падаецца, што, як ніколі, сур'ёзнай увагі патрабуюць сацыяльныя пытанні, звязаныя з адукацыйнай сферай. Сёння шырока адчынілі дзверы прыватныя ВНУ. Камерцыялізацыя ўваходзіць і ў прастору сярэдняй адукацыі. Ці не здарыцца так, што заўтра бацькам за навучанне ў звычайнай школе давядзецца плаціць? Дашкольнае выхаванне, выхавацкая работа з падлеткамі — каго з дзяржаўных мужоў і ў якой ступені гэта непакоіць? Экзаменацыйныя клопаты: наколькі аб'ектыўнай бывае праверка ведаў вашых дзяцей? Мы спадзяемся, што ў дыялогу з міністрам адукацыі і навукі самы актыўны ўдзел прымуць якраз бацькі школьнікаў, гімназістаў, студэнтаў.

Верым, што званіць, пісаць, пытацца будуць і настаўнікі. Ад таго, наколькі высока дзяржава ацэньвае іх ролю, іх працу, залежыць і ўзровень падрыхтоўкі нашых дзяцей, іх зацікаўленасць у вучобе, аваладанні ведамі, а значыць, і іх, ды і наша таксама, будучыня. Будучыня нашай краіны.

## УКАЗ

ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 159

**Аб прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці службовых асоб, вінаватых у неналежным выкананні службовых абавязкаў, і ліквідацыі недахопаў у будаўніцтве жылля для грамадзян, якія перасяляюцца з зон радыеактыўнага забруджвання ў Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці**

Праведзенай у Магілёўскай вобласці праверкай па выкананню праграмы будаўніцтва жылля для грамадзян, якія перасяляюцца з зон радыеактыўнага забруджвання ў пасёлкі Кароўчына і Белая Дрыбінскага раёна, выяўлены факты халатных адносін асобных службовых асоб да выканання службовых абавязкаў.

Устаноўлена, што ў пасёлку Кароўчына з пабудаваных 237 кватэр фактычна заселена 203 кватэры. З-за недастатковага кантролю за захаванасцю дзяржаўнай маёмасці ў 34 кватэрах, у тым ліку кватэрах, перададзеных на баланс мясцовага саўгаса, дзяржаве нанесены ўрон на суму звыш 2 млрд. рублёў.

У пасёлку Белая ў выніку разукамплектавання тэхнічнага аснашчэння недабудаваных 84 кватэр матэрыяльны ўрон склаў больш чым 300 млн. рублёў.

Да гэтага часу ва ўказаных пасёлках не наведзены належны парадак па ўліку жылля.

Ахова пасёлкаў практычна не ажыццяўлялася, дзейсных мераў па фактах крадзяжоў з пабудаваных кватэр, прызначаных для перасяленцаў, не прымалася.

З боку Міністэрства фінансаў, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад выні-каў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, Магілёўскага аблвыканкома, праваахоўных органаў не прымалася належных мераў па своечасоваму фінансаванню і заканчэнню будаўніцтва жылля, яго захаванасці.

Улічваючы, што ўстаноўленыя факты з'яўляюцца вынікам неналежнага выканання кіраўнікамі адпаведных міністэрстваў, выканаўчых і распарадчых органаў Магілёўскай вобласці службовых абавязкаў, **пастанаўляю:**

1. Звярнуць увагу прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Чыгіра М. М. і міністра фінансаў Дзіка П. У. на недастатковы кантроль за асваеннем сродкаў, што выдзяляюцца на будаўніцтва жылля для грамадзян, якія перасяляюцца з зон радыеактыўнага забруджвання, і непрыняцце неабходных мераў па рацыянальнаму іх выкарыстанню.
2. Строга ўказаць старшыні Магілёўскага аблвыканкома Кулічкову А. М. на адсутнасць належнага кантролю і незабеспячэнне рэалізацыі ўрадавых мераў па будаўніцтву ў галіне жылля для грамадзян, якія перасяляюцца з зон радыеактыўнага забруджвання.
3. Аб'явіць вымову міністру па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Кеніку І. А.
4. Старшыні Магілёўскага аблвыканкома Кулічкову А. М. ва ўстаноўленым парадку вызваліць ад займаемых пасад намесніка старшыні аблвыканкома Сёмкіна А. С., старшыню Дрыбінскага райвыканкома Гушчу В. А., першага намесніка старшыні Дрыбінскага райвыканкома Радзько М. М., намеснікаў старшыні Дрыбінскага райвыканкома Чэрнікава В. Г., Крывіцкага В. М. і Веранкова В. В.
5. Міністру ўнутраных спраў Агальцу В. С. вызваліць ад займаемай пасады начальніка Дрыбінскага раённага аддзела ўнутраных спраў Тагіля І. Н.
6. Прапанаваць Генеральнаму пракурору Капітану В. С. разгледзець пытанне аб вызваленні ад займаемай пасады пракурора Дрыбінскага раёна Гайшуна Н. В. і прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці пракурора Магілёўскай вобласці Нікалаева Л. Н.
7. Службе кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (Дамашкевіч М. Ф.) ажыццявіць праверку выкарыстання цэнтралізаваных капітальных укладанняў, выдзеленых на будаўніцтва ў Магілёўскай вобласці пасёлкаў для грамадзян, якія перасяляюцца з зон радыеактыўнага забруджвання.

**(Заканчэнне на 8-й стар.)**

## УКАЗ

ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 160

**Аб Камітэце па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь**

1. Зацвердзіць прыкладаемыя:

Палажэнне аб Камітэце па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь;

Палажэнне аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі;

Палажэнне аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры;

састаў Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь вызначыць парадак апла-ты рэцэнзавання і экспертнага разгляду работ, што вылучаюцца на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
**А. ЛУКАШЭНКА.**

6 мая 1996 г., г. Мінск.

# Дагавор аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі

Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя, якія далей называюцца Бакамі,

грунтуючыся на агульнасці лёсаў сваіх народаў, якія склаліся гістарычна,

апіраючыся на іх волю да далейшага збліжэння, якая выказана ў выніках майскага (1995 года) рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь, і ў кастрычніцкіх (1995 года) рашэннях палат Федэральнага Схода Расійскай Федэрацыі

грунтуючыся на палажэннях Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй ад 21 лютага 1995 года,

пацвярджаючы свой удзел у Садружнасці Незалежных Дзяржаў, Дагаворы паміж Рэспублікай Беларусь, Рэспублікай Казахстан, Кыргызскай Рэспублікай і Расійскай Федэрацыяй аб паглыбленні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай галінах ад 29 сакавіка 1996 года,

дамовіліся аб наступным:

### Артыкул 1

Бакі вырашылі на дабравольнай аснове стварыць глыбока інтэгрыраванае палітычна і эканамічна Супольніцтва Беларусі і Расіі ў мэтах аб'яднання матэрыяльнага і інтэлектуальнага патэнцыялаў сваіх дзяржаў для пад'ёму эканомікі, стварэння роўных умоў павышэння ўзроўню жыцця народаў і духоўнага развіцця асобы.

### Артыкул 2

Супольніцтва заснавана на прынцыпах суверэнітэту і роўнасці Бакоў, дэмакратыі і павагі да правоў чалавека, агульнапрынятых прынцыпаў і норм міжнароднага права.

### Артыкул 3

Бакі ўзгадняюць сваю знешнюю палітыку, агульныя пазіцыі па асноўных міжнародных пытаннях, узаемадзейнічаюць у забеспячэнні бяспекі, ахове граніц і барацьбе са злачыннасцю.

У мэтах забеспячэння надзейнай бяспекі Бакі распрацоўваюць агульныя прынцыпы ваеннага будаўніцтва, выкарыстання элементаў ваеннай інфраструктуры ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам.

### Артыкул 4

Для стварэння адзінай эканамічнай прасторы, эфектыўнага функцыяніравання агульнага рынку і свабоднага перамяшчэння тавараў, паслуг, капіталаў і рабочай сілы Бакі да канца 1997 года сінхранізуюць этапы, тэрміны і глыбіню эканамічных рэформаў, якія праводзяцца, ствараюць адзіную нарматыўна-прававую базу для ўстаранення любых міждзяржаўных бар'ераў і абмежаванняў, стварэння роўных магчымасцей для свабоднай эканамічнай дзейнасці.

У гэты перыяд Бакі ствараюць уніфіцыраваную сістэму антыманапольнага заканадаўства, падаткаў, дзяржаўнай падтрымкі вытворчасці, рэжыму інвестыцый, норм і правілаў аховы працы, а таксама завершаць стварэнне агульнай мытнай прасторы з аб'яднанай службай кіравання.

### Артыкул 5

Да канца 1996 года Бакі забяспечаць правядзенне мераў па фарміраванню агульнай транспартнай сістэмы з адзінымі тарыфамі па перавозцы грузаў і пасажыраў, а таксама аб'яднанай энергасістэмы, агульнай навукова-тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы.

### Артыкул 6

Бакі ўзгодняць, пачынаючы з 1997 года, структурную палітыку далейшага развіцця сваіх эканомік, маючых на ўвазе стварэнне прамысловага і аграрнага гаспадарчых комплексаў, якія заснаваны на ўзаемадапаўняльнасці эканомік, максімальным выкарыстанні пераваг рацыянальнага падзелу працы, спецыялізацыі і кааперавання вытворчасці.

Пачынаючы з 1997 года, ажыццяўляецца пераход да састаўлення сумесных балансаў вытворчых магутнасцей і ўзгодненаму іх выкарыстанню ў інтарэсах Бакоў.

### Артыкул 7

Да канца 1997 года праводзіцца уніфікацыя грашова-крэдытных і бюджэтных сістэм Бакоў, ствараюцца ўмовы для ўвядзення агульнай валюты.

### Артыкул 8

Бакі:

забяспечваюць роўныя правы грамадзян Бакоў пры атрыманні адукацыі, працаўладкаванні, аплаце працы, прадастаўленні іншых сацыяльных гарантый;

уводзяць адзіныя стандарты сацыяльнай абароны;

забяспечваюць роўнае права фізічных асоб на набыццё маёмасці ва ўласнасць, валоданне, карыстанне і распараджэнне ім на сваіх тэрыторыях;

выроўніваюць умовы пенсіённага забеспячэння, узроўні дапамог і льгот ветэранам вайны і працы, інвалідам і малазабяспечаным сем'ям;

уніфіцыруюць нормы ў галіне аховы працы, сацыяльнага страхавання, вытворчай і сацыяльнай гігіены;

ствараюць агульную інфармацыйную базу па пытаннях занятасці насельніцтва і наяўнасці працоўных вакансій.

### Артыкул 9

Вышэйшым органам Супольніцтва з'яўляецца Вышэйшы Савет, у які ўваходзяць кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў, кіраўнікі парламентаў Бакоў, а таксама старшыня Выканаўчага Камітэта.

Вышэйшы Савет у межах паўнамоцтваў Супольніцтва разглядае і вырашае важнейшыя пытанні развіцця Супольніцтва, кантралюе і накіроўвае дзейнасць яго органаў па выкананню прынятых рашэнняў.

Вышэйшы Савет вызначае месцазнаходжанне органаў Супольніцтва.

Вышэйшы Савет выбірае Старшыню на ратацыйнай аснове тэрмінам на два гады.

Рашэнні Вышэйшага Савета прымаюцца на аснове аднагалоснасці, пры якой кожны з Бакоў мае адзін голас.

Старшыня Выканаўчага Камітэта мае дарадчы голас.

Вышэйшы Савет зацвярджае свой статут.

### Артыкул 10

Бакі зацвярджаюць Парламенцкі Сход, які фарміруецца з роўнай колькасці парламентарыяў ад кожнага з Бакоў.

Парламенцкі Сход прымае мадэльныя заканадаўчыя акты і ўносіць адпаведныя прапановы ў органы, якія маюць права заканадаўчай ініцыятывы, у парламенты Бакоў і ў Вышэйшы Савет — па пытаннях развіцця прававой базы Супольніцтва.

Рашэнні Парламенцкага Сходу прымаюцца кваліфікаванай большасцю галасоў.

Пасяджэнні Парламенцкага Сходу правамоцны, калі на іх прысутнічае не менш двух трацей дэпутатаў ад кожнага з Бакоў.

Парламенцкі Сход прымае свой рэгламент.

### Артыкул 11

Для арганізацыі практычнай работы па выкананню Дагавора Вышэйшы Савет стварае Выканаўчы Камітэт у якасці пастаянна дзейнічаючага выканаўчага органа, а таксама галіновыя органы кіравання.

Старшыня Выканаўчага Камітэта назначаецца Вышэйшым Саветам.

У склад Выканаўчага Камітэта ўваходзіць роўная колькасць прадстаўнікоў Бакоў. Персанальны склад прадстаўнікоў Бакоў у Выканаўчым Камітэце зацвярджаецца Кіраўніком адпаведнай Дзяржавы.

Выканаўчы Камітэт:

распрацоўвае праекты і праграмы па рэалізацыі мэтаў і задач Супольніцтва; прапановы па фінансаванню мерапрыемстваў, якія ажыццяўляюцца Супольніцтвам; прапановы па стварэнню органаў і арганізацый, якія забяспечваюць вырашэнне адпаведных задач Супольніцтва, — і ўносіць іх на зацвярджэнне Вышэйшага Савета;

распрацоўвае і зацвярджае мерапрыемствы па выкананню рашэнняў Вышэйшага Савета, зацверджаных праектаў і праграм Супольніцтва, арганізуе і кантралюе іх выкананне;

каардынуе дзейнасць іншых органаў і арганізацый, якія прыцягваюцца кожным з Бакоў для ажыццяўлення праектаў і праграм Супольніцтва;

заключае ад свайго імя адпаведныя грамадзянска-прававыя дагаворы;

у межах выдзеленых у бюджэт Супольніцтва сродкаў ажыццяўляе фінансаване і іншае забеспячэнне рэалізуемых праектаў, праграм і асобных мерапрыемстваў;

штогод прадстаўляе Вышэйшаму Савету справаздачы аб ходзе выканання праектаў і праграм Супольніцтва.

Функцыі Выканаўчага Камітэта, парадак яго дзейнасці вызначаюцца Палажэннем аб гэтым Камітэце, якое зацвярджаецца Вышэйшым Саветам.

Выканаўчы Камітэт мае апарат, колькасць якога ўстанаўліваецца Вышэйшым Саветам.

### Артыкул 12

Да функцый ствараемых органаў Супольніцтва адносяцца:

правядзенне агульнай эканамічнай і сацыяльнай палітыкі, распрацоўка і рэалізацыя сумесных праграм;

фарміраванне адзінай нарматыўна-прававой базы;

ажыццяўленне мерапрыемстваў, якія накіраваны на уніфікацыю грашова-крэдытных, падатковых і бюджэтных сістэм;

распрацоўка і ажыццяўленне мераў, якія ствараюць умовы для ўвядзення агульнай валюты;

фарміраванне адзінай энергетычнай, транспартнай сістэм і сістэмы сувязі;

рацыянальнае размяшчэнне новых і мадэрнізацыя існуючых вытворчых магутнасцей;

узаемадзеянне ў рашэнні пытанняў занятасці насельніцтва;

узгодненае ажыццяўленне знешнеэканамічных сувязей;

сумесная арганізацыя мытнай справы;

фарміраванне адзіных стандартаў, эталонаў, метрычных сістэм, статыстыкі;

усямернае садзейнічанне развіццю агульнай навуковай, адукацыйнай і культурнай прасторы;

узаемадзеянне ў забеспячэнні аховы навакольнага асяроддзя, ліквідацыі наступстваў аварый і стыхійных бедстваў;

стварэнне адзінай метэаралагічнай службы;

узаемадзеянне ў забеспячэнні бяспекі і ахове граніц.

### Артыкул 13

Вышэйшы Савет і Выканаўчы Камітэт маюць права ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць рашэнні, якія падлягаюць непасрэднаму іх выкананню, без урону для канстытуцый Бакоў, або рашэнні, якія падлягаюць трансфармацыі ў нацыянальнае заканадаўства.

### Артыкул 14

Бюджэт Супольніцтва фарміруецца за кошт штогадовых адлічэнняў сродкаў з дзяржаўных бюджэтаў Бакоў і накіроўваецца на фінансаванне агульных праграм і ўтрыманне органаў Супольніцтва.

Бакі на аснове дадатковых пагадненняў перадаюць органам Супольніцтва маёмасць, якая неабходна для ажыццяўлення ўскладзеных на іх паўнамоцтваў. Гэта маёмасць з'яўляецца сумеснай уласнасцю Бакоў і выкарыстоўваецца выключна ў іх агульных інтарэсах.

### Артыкул 15

Удзельнічаючы ў Супольніцтве, кожны з Бакоў захоўвае дзяржаўны суверэнітэт, незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, сваю Канстытуцыю, Дзяржаўны флаг, Герб, Гімн і іншыя атрыбуты дзяржаўнай улады.

### Артыкул 16

Дзяржавы, якія ствараюць Супольніцтва, з'яўляюцца суб'ектамі міжнароднага права і самастойна ўстанаўліваюць дыпламатычныя і консульскія адносіны, гандлёвыя і іншыя сувязі з замежнымі дзяржавамі, заключаюць міжнародныя дагаворы.

Бакі захоўваюць сваё членства ў ААН і іншых міжнародных арганізацыях.

### Артыкул 17

Далейшае развіццё Супольніцтва і яго ўладкаванне вызначаюцца рэферэндумамі, якія праходзяць на тэрыторыях Бакоў у адпаведнасці з іх нацыянальным заканадаўствам.

### Артыкул 18

Гэты Дагавор адкрыты для далучэння да яго іншых дзяржаў, якія падзяляюць яго мэты і прынцыпы і прымаюць на сябе ў поўным аб'ёме абавязкі, якія вынікаюць з Дагавора.

### Артыкул 19

Гэты Дагавор часова прымяняецца з дня падпісання, падлягае ратыфікацыі і ўступае ў сілу ў дзень абмену ратыфікацыйнымі граматамі.

Здзейснена ў г. Масква 2 красавіка 1996 года ў двух экземплярах, кожны на беларускай і рускай мовах, прычым абодва тэксты маюць аднолькавую сілу.

**За Рэспубліку Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

**За Расійскую Федэрацыю**
**Б. ЕЛЬЦЫН**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

**Артыкул 1.** Зацвердзіць рэспубліканскі бюджэт на 1996 год па расходах у суме 42 440 865,4 млн. рублёў зыходзячы з прагназуемага аб'ёму даходаў у суме 36 962 844,5 млн. рублёў.

Устанавіць гранічны памер дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту на 1996 год у суме 5 478 020,9 млн. рублёў.

Накіраваць на пакрыццё дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту наступныя крыніцы:

| | (млн. рублёў) |
|---|---|
| Фінансаванне — усяго | 5 478 020,9 |
| У тым ліку: | |
| унутранае фінансаванне | 4 548 750,9 |
| з іх: | |
| крэдыты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь | 1 860 000,0 |
| крэдыты Міжнароднага валютнага фонду | 400 000,0 |
| крэдыты Еўрапейскага Саюза | 440 000,0 |
| дзяржаўныя казначэйскія абавязацельствы | 850 000,0 |
| змяненне дэпазітаў | 750,9 |
| паступленні ад прыватызацыі рэспубліканскай уласнасці | 998 000,0 |
| знешняе фінансаванне | 929 270,0. |

**Артыкул 2.** Устанавіць, што даходы рэспубліканскага бюджэту на 1996 год фарміруюцца за кошт:

адлічэнняў ад падатку на дабаўленую вартасць (за выключэннем адлічэнняў, што перадаюцца ў бюджэты абласцей і горада Мінска ў памерах, прадугледжаных пунктам «б» артыкула 15 гэтага Закона);

адлічэнняў ад акцызаў у памеры 70 працэнтаў;

адлічэнняў ад падатку на прыбытак і падатку на даходы прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый усіх форм уласнасці ў памеры 60 працэнтаў;

надзвычайнага падатку для фінансавання расходаў па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

акцызаў і падатку на дабаўленую вартасць, якія бяруцца пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь;

мытных пошлін, збораў і даходаў;

збору за праезд аўтатранспартных сродкаў па аўтамабільных дарогах агульнага карыстання Рэспублікі Беларусь;

падатку на нерухомасць прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый, маёмасць якіх адносіцца да рэспубліканскай уласнасці, за выключэннем прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый, якія выплачваюць гэты падатак у адпаведнасці з артыкулам 16 гэтага Закона ў бюджэты абласцей і горада Мінска;

платы за зямлю;

іншых даходаў і непадатковых паступленняў, за выключэннем адлічэнняў, якія выплачваюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам у бюджэты абласцей і горада Мінска.

**Артыкул 3.** Улічыць у рэспубліканскім бюджэце на 1996 год паступленні даходаў па асноўных крыніцах у наступных сумах:

| | (млн. рублёў) |
|---|---|
| Падатак на прыбытак і даход юрыдычных асоб | 7 106 101,2 |
| Падатак на дабаўленую вартасць | 9 358 843,7 |
| Акцызы | 4 242 921,6 |
| Падатак на паліва | 170 000,0 |
| Падатак на нерухомасць | 1 157 812,0 |
| Збор на ўтрыманне дзяржаўнай пажарнай службы | 370 000,0 |
| Плата за зямлю | 375 680,0 |
| Мытныя пошліны, зборы і даходы | 4 844 920,0 |
| Збор за праезд аўтатранспартных сродкаў па аўтадарогах агульнага карыстання Рэспублікі Беларусь | 470 645,0 |
| Надзвычайны падатак для фінансавання расходаў па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС | 3 814 920,0 |
| Плацяжы за карыстанне прыроднымі рэсурсамі | 160 033,0 |
| Дзяржпошліна | 96 700,0 |
| Зборы і розныя непадатковыя даходы | 2 473 905,0 |
| Паступленні ад разбраніравання дзяржаўных запасаў і рэзерваў | 1 263 363,0 |
| Вяртанне бюджэтных пазык | 600 000,0 |
| Прыбытак Нацыянальнага банка | 457 000,0. |

**Артыкул 4.** Зацвердзіць функцыянальную структуру расходаў рэспубліканскага бюджэту на 1996 год у наступных сумах:

| | (млн. рублёў) |
|---|---|
| Фінансаванне народнай гаспадаркі | 6 116 193,2 |
| У тым ліку на: | |
| дзяржаўныя капітальныя ўкладанні | 1 300 790,0 |
| дзяржаўную датацыю | 200 800,0 |
| пакрыццё розніцы ў цэнах | 150 327,0 |
| геолагаразведачныя і тапографа-геадэзічныя работы | 216 679,0 |
| будаўніцтва, рамонт і ўтрыманне аўтамабільных дарог | 1 070 550,0 |
| расходы па фінансаванню дзяржаўных комплексных праграм па развіццю аграпрамысловага комплексу і забеспячэнню аграрнай рэформы | 984 650,0 |
| расходы па вапнаванню кіслых глеб | 478 800,0 |
| расходы па ўтрыманню бюджэтных арганізацый сельскай гаспадаркі | 128 082,0 |
| расходы па ўтрыманню бюджэтных (акрамя сельскай гаспадаркі) арганізацый і іншыя расходы па народнай гаспадарцы | 1 008 258,3 |
| дзяржаўную падтрымку сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак | 80 000,0 |
| ільготнае крэдытаванне і субсідыі на жыллёвае будаўніцтва | 497 256,9 |
| Расходы, звязаныя са знешнеэканамічнай дзейнасцю | 2 058 254,5 |
| Фінансаванне сацыяльна-культурных устаноў і мерапрыемстваў па сацыяльнай абароне | 11 395 246,8 |
| У тым ліку на: | |
| адукацыю і падрыхтоўку кадраў | 2 405 397,9 |
| культуру | 294 895,8 |
| сродкі масавай інфармацыі | 716 100,0 |
| ахову здароўя | 3 449 947,0 |
| фізічную культуру | 272 793,0 |
| сацыяльнае забеспячэнне | 2 490 494,1 |
| з іх: | |
| сродкі, якія перадаюцца Міністэрству сацыяльнай абароны на выплату пенсій ваеннаслужачым радавога, начальніцкага складу, а таксама сацыяльных пенсій | 362 124,0 |
| фінансаванне спецыяльных сацыяльных праграм і мерапрыемстваў | 444 325,0 |
| У тым ліку: | |
| Дзяржаўная праграма маладзёжнай палітыкі | 7000,0 |
| дапамогі сем'ям, якія маюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 (18) гадоў, што перадаюцца Міністэрству сацыяльнай абароны | 1 321 294,0 |
| Фінансаванне навукі | 1 203 165,0 |
| Расходы на абарону | 2 565 848,0 |
| У тым ліку: | |
| абарона і чыгуначныя войскі | 2 283 733,0 |
| пагранічныя войскі | 271 540,0 |
| абароннае спартыўна-тэхнічнае таварыства | 5000,0 |
| дзяржаўны цэнтр бяспекі інфармацыі | 5575,0 |
| Утрыманне органаў унутраных спраў | 2 000 390,0 |
| Утрыманне ўнутраных войск | 277 800,0 |
| Утрыманне папраўча-працоўных устаноў | 488 400,0 |
| Утрыманне органаў дзяржаўнай бяспекі | 280 493,0 |
| Утрыманне Канстытуцыйнага Суда | 4992,0 |
| Утрыманне судовых органаў | 217 465,1 |
| з іх: | |
| Вярхоўнага Суда | 7781,7 |
| органаў Вышэйшага Гаспадарчага Суда | 14 481,4 |
| Утрыманне органаў пракуратуры | 126 079,3 |
| Утрыманне мытных органаў | 341 777,5 |
| Утрыманне Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы | 29 600,0 |
| Утрыманне службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь | 10 881,0 |
| Папаўненне дзяржаўных запасаў і рэзерваў | 1 180 333,0 |
| Утрыманне органаў дзяржаўнай улады і кіравання | 1 304 990,6 |
| з іх: | |
| Вярхоўнага Савета | 118 615,8 |
| Кантрольнай палаты | 18 669,9 |
| Адміністрацыі Прэзідэнта (уключаючы Савет Бяспекі і апарат Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта) | 26 721,4 |
| Кабінета Міністраў | 22 575,4 |
| цэнтралізаваныя расходы па ўтрыманню Адміністрацыі Прэзідэнта (уключаючы Савет Бяспекі і апарат Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта), Кабінета Міністраў і іншых цэнтральных органаў кіравання | 106 427,3 |
| Рэзервовы фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь | 361 891,3 |

**(Працяг на 3-й стар.)**

# Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год

(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)

| | |
|---|---|
| Расходы па абслугоўванню дзяржаўнага ўнутранага доўгу і выдадзеных пазык пад гарантыю бюджэту | 963 035,6 |
| Расходы на правядзенне выбараў | 19 633,6 |
| Расходы па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС | 4 639 074,0 |
| Расходы, якія не адносяцца да асноўных раздзелаў | 249 236,5 |
| Сродкі, якія перадаюцца мясцовым бюджэтам | 6 606 085,4. |

**Артыкул 5.** Зацвердзіць абаротную касавую наяўнасць па рэспубліканскаму бюджэту на 1 студзеня 1997 года ў суме 116 349,1 млн. рублёў.

**Артыкул 6.** Устанавіць у адпаведнасці з артыкулам 18 Закона Рэспублікі Беларусь ад 19 студзеня 1993 года «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., № 7, арт. 43) ніжнюю мяжу агульных затрат на навукова-даследчую дзейнасць у памеры 3 працэнтаў ад даходнай часткі рэспубліканскага бюджэту і нарматыў аб'ёму фінансавання фундаментальных і пошукавых даследаванняў у памеры 25 працэнтаў ад агульнага аб'ёму бюджэтных асігнаванняў на навукова-даследчыя і вопытна-канструктарскія работы.

**Артыкул 7.** Устанавіць, што сродкі рэспубліканскага бюджэту, выдзеленыя ў адпаведнасці з артыкулам 4 гэтага Закона, у першачарговым парадку накіроўваюцца на пагашэнне запазычанасці па заработнай плаце, выкананых работах і аказаных паслугах, якая ўтварылася на 1 студзеня 1996 года.

**Артыкул 8.** Устанавіць, што ў 1996 годзе ўсе юрыдычныя асобы (уключаючы замежныя), іх філіялы, прадстаўніцтвы, аддзяленні і іншыя структурныя падраздзяленні, якія маюць адасоблены (асобны) баланс і разліковы (бягучы) рахунак і ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць незалежна ад форм уласнасці, выплачваюць надзвычайны падатак для фінансавання расходаў па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС* у памеры 10 працэнтаў ад фонду заработнай платы.

Вызваляюцца ад выплаты надзвычайнага падатку з фонду заработнай платы:

калегіі адвакатаў;

прадпрыемствы і арганізацыі Беларускага таварыства інвалідаў па зроку, Беларускага таварыства інвалідаў, Беларускага таварыства глухіх, што належаць ім на праве ўласнасці;

калгасы, саўгасы, сялянскія (фермерскія) гаспадаркі, міжгаспадарчыя прадпрыемствы і арганізацыі, сельскагаспадарчыя кааператывы, падсобныя сельскія гаспадаркі прамысловых прадпрыемстваў і іншыя сельскагаспадарчыя фарміраванні незалежна ад форм уласнасці за выраблёную прадукцыю раслінаводства (акрамя кветак, дэкаратыўных раслін), жывёлагадоўлі (акрамя пушной зверагадоўлі) і рыбаводства;

агульнаадукацыйныя школы ў частцы сродкаў, выплачаных вучням за сабраную макулатуру і металалом;

сацыяльна-культурныя ўстановы і арганізацыі, якія атрымліваюць датацыю з бюджэту на пакрыццё страт;

грамадскія аб'яднанні, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць за кошт добраахвотных ахвяраванняў юрыдычных і фізічных асоб і не займаюцца гаспадарчай дзейнасцю;

бюджэтныя навуковыя ўстановы і арганізацыі пры выкананні навукова-даследчых і вопытна-канструктарскіх работ на падставе дагавораў, заключаных з арганізацыямі, якім на гэтыя мэты выдзелены бюджэтныя асігнаванні;

сацыяльна-культурныя ўстановы і арганізацыі, якія знаходзяцца на балансе прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і іншых суб'ектаў гаспадарання незалежна ад форм уласнасці і ўтрымліваюцца поўнасцю або часткова за кошт прыбытку, што застаецца ў іх распараджэнні;

сумы надбавак і даплат да тарыфных ставак і акладаў, расходаў па аплаце дадатковых водпускаў у выпадках, калі такія надбаўкі, даплаты і расходы ўстаноўлены ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 22 лютага 1991 года «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., № 10(12), арт.111; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 4, арт.73, № 33, арт.525) і кампенсуюцца фінансавым органам за кошт сродкаў, прызначаных для пакрыцця расходаў па ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС;

сумы аплаты донарам за здачу крыві і яе кампанентаў, якія, згодна з Кодэксам законаў аб працы, пакрываюцца за кошт медыцынскай установы.

Сумы вылічанага надзвычайнага падатку адносяцца на сабекошт прадукцыі, выкананых работ і аказаных паслуг.

Адказнасць за нявыплату надзвычайнага падатку і парадак яго спагнання ўстанаўліваюцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь».

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь вызначыць склад фонду заработнай платы для мэт абкладання надзвычайным падаткам.

Сумы гэтага падатку накіроўваюцца на фінансаванне мерапрыемстваў па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

**Артыкул 9.** У мэтах узмацнення дзяржаўнай дапамогі сельскагаспадарчым прадпрыемствам і прадпрыемствам па вытворчасці прадуктаў харчавання для насельніцтва стварыць у 1996 годзе рэспубліканскі пазабюджэтны фонд падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання.

Устанавіць, што даходы ўказанага пазабюджэтнага фонду фарміруюцца за кошт адлічэнняў у памеры 1 працэнта выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, работ і паслуг (у банках, за выключэннем Нацыянальнага банка, — ад даходу, у забеспячэнска-збытавых, нарыхтоўчых, гандлёвых і гандлёва-закупачных арганізацыях, прадпрыемствах грамадскага харчавання — ад валавога даходу, у страхавых арганізацыях — ад балансавага прыбытку) усімі юрыдычнымі асобамі Рэспублікі Беларусь, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць незалежна ад форм уласнасці, за выключэннем калгасаў, саўгасаў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, міжгаспадарчых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і арганізацый, сельскагаспадарчых кааператываў, падсобных сельскіх гаспадарак прадпрыемстваў і арганізацый і іншых сельскагаспадарчых фарміраванняў, а таксама прадпрыемстваў спажывецкай кааперацыі.

Адлічэнні ва ўказаны фонд улічваюцца пры фарміраванні адпускной цаны, выключаюцца ў першачарговым парадку з выручкі ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг), тавараабароту, даходу, валавога даходу і не ўлічваюцца пры разліку акцызаў, падаткаў на дабаўленую вартасць і прыбытак, а таксама пры падліку іншых плацяжоў, якія выплачваюцца ў бюджэт і пазабюджэтныя фонды.

Устанавіць план даходаў і расходаў рэспубліканскага пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання на 1996 год (дадатак 1).

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь вызначыць парадак вылічэння, унясення сродкаў ва ўказаны фонд юрыдычнымі асобамі Рэспублікі Беларусь, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць, а таксама парадак выкарыстання сродкаў па мэтаваму прызначэнню.

**Артыкул 10.** Устанавіць, што ў 1996 годзе ствараюцца пазабюджэтныя фонды мясцовых Саветаў дэпутатаў для фінансавання расходаў на ўтрыманне ведамаснага жыллёвага фонду за кошт адлічэнняў усімі юрыдычнымі асобамі Рэспублікі Беларусь, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць незалежна ад форм уласнасці, у памеры 0,5 працэнта выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, работ і паслуг (у забеспячэнска-збытавых, нарыхтоўчых, гандлёвых і гандлёва-закупачных арганізацыях, гандлёвых базах, банках, прадпрыемствах грамадскага харчавання і іншых прадпрыемствах, што рэалізуюць тавары і іншыя актывы, — ад аб'ёму валавога даходу, у страхавых арганізацыях — ад сумы балансавага прыбытку).

Прадаставіць абласным і Мінскаму гарадскому выканаўчым камітэтам права дыферэнцыраваць указаны вышэй памер адлічэнняў па прадпрыемствах і арганізацыях у залежнасці ад наяўнасці жыллёвага фонду і патрэбнасці ў сродках на фінансаванне расходаў па яго ўтрыманню.

**Артыкул 11.** Устанавіць, што ў 1996 годзе дадатковыя сродкі, якія атрымліваюць дзяржаўныя навучальныя ўстановы, акрэдытаваныя ва ўстаноўленым парадку, ад ажыццяўлення гаспадарчай і камерцыйнай дзейнасці і якія накіраваны на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы і выплату заработнай платы, не абкладаюцца падаткамі і зборамі, прадугледжанымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12.** Расходы на комплекс работ па вапнаванню кіслых глеб правесці за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту і лічыць, што плацяжы за зямлю, якія паступаюць у 1996 годзе ў даход мясцовых бюджэтаў, у гэтай частцы не маюць мэтавага накіравання.

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь унесці ў першым паўгоддзі 1996 года прапановы па змяненню дзеючага заканадаўства ў частцы выкарыстання плацяжоў за зямлю.

**Артыкул 13.** Зацвердзіць сярэднерэспубліканскі нарматыў бюджэтнай забяспечанасці па даходах на аднаго жыхара абласцей і горада Мінска на 1996 год у памеры 2100,0 тыс. рублёў.

Для давядзення бюджэтнай забяспечанасці па даходах на аднаго жыхара па кожнай вобласці і гораду Мінску да сярэднерэспубліканскага нарматыву ўстанавіць памер асігнаванняў мясцовым бюджэтам з рэспубліканскага бюджэту ў суме 4 185 354,2 млн. рублёў, у тым ліку па Брэсцкай вобласці — 1 240 897,9 млн. рублёў, Віцебскай вобласці — 596 597,6 млн. рублёў, Гомельскай вобласці — 165 625,8 млн. рублёў, Гродзенскай вобласці — 905 295,8 млн. рублёў, Мінскай вобласці — 704 163,6 млн. рублёў, Магілёўскай вобласці — 572 773,5 млн. рублёў.

**Артыкул 14.** Устанавіць, што:

дадатковыя даходы, якія паступілі ў 1996 годзе звыш фактычна атрыманых у 1995 годзе ў разліку на аднаго жыхара па замацаваных за мясцовымі бюджэтамі даходных крыніцах, поўнасцю застаюцца ў адпаведных мясцовых бюджэтах і не ўлічваюцца пры складанні і ўдакладненні бюджэтаў;

расходы, зэканомленыя ў 1996 годзе супраць фактычных расходаў 1995 года ў разліку на аднаго жыхара, не падлягаюць скарачэнню пры складанні і ўдакладненні бюджэтаў і ў поўнай суме застаюцца ў распараджэнні адпаведных мясцовых бюджэтаў.

**Артыкул 15.** Зацвердзіць на 1996 год нарматывы адлічэнняў (у працэнтах) у бюджэты абласцей і горада Мінска:

а) ад акцызаў — 30;

б) ад падатку на дабаўленую вартасць — 50, за выключэннем бюджэту горада Мінска; у бюджэт горада Мінска зацвердзіць нарматыў адлічэнняў — 25;

в) ад падатку на прыбытак і даходы прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый усіх форм уласнасці — 40.

**Артыкул 16.** Устанавіць, што падатак на нерухомасць, які выплачваецца прадпрыемствамі, аб'яднаннямі і арганізацыямі камунальнай уласнасці, грамадскімі арганізацыямі, прадпрыемствамі і арганізацыямі спажывецкай кааперацыі, іншымі кааператывамі, а таксама іншымі прадпрыемствамі і арганізацыямі мясцовай гаспадаркі, фізічнымі асобамі, у 1996 годзе поўнасцю залічваецца ў бюджэты абласцей і горада Мінска.

**Артыкул 17.** Перадаць з рэспубліканскага бюджэту на мерапрыемствы і расходы, якія маюць агульнарэспубліканскае і міжрэгіянальнае значэнне, 2 420 731,2 млн. рублёў, у тым ліку: бюджэтам Брэсцкай вобласці — 243 866,1 млн. рублёў, Віцебскай вобласці — 349 646,0 млн. рублёў, Гомельскай вобласці — 274 175,5 млн. рублёў, Гродзенскай вобласці — 399 393,8 млн.рублёў, Мінскай вобласці — 412 443,6 млн. рублёў, Магілёўскай вобласці — 432 934,6 млн. рублёў, гораду Мінску — 308 271,6 млн. рублёў, у тым ліку 200 000,0 млн. рублёў на выкананне горадам Мінскам функцый сталіцы Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 18.** Устанавіць, што на 1996 год памер прыросту ўнутранага дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь не можа перавышаць 2 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту.

Устанавіць на 1996 год ліміт удзелу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь у крэдытаванні рэспубліканскага бюджэту ў памеры 1,5 працэнта ад валавога ўнутранага прадукту.

Устанавіць, што плата за абслугоўванне Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь крэдытаў, выдадзеных Ураду ў 1996 годзе, бярэцца на ўзроўні стаўкі рэфінансавання, якая ўстанаўліваецца Нацыянальным банкам.

Аднесці на ўнутраны дзяржаўны доўг Рэспублікі Беларусь сумы фактычна выдадзеных у 1995 годзе Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь крэдытаў пад дэфіцыт рэспубліканскага бюджэту пад 6,5 працэнта гадавых.

**Артыкул 19.** Зацвердзіць план валютных даходаў і расходаў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь на 1996 год у суме 146,2 млн. долараў ЗША (дадатак 2).

Устанавіць, што ў 1996 годзе купля Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь валютных сродкаў ажыццяўляецца па афіцыйнаму курсу з Валютнага рэзервовага фонду Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь і на Міжбанкаўскай валютнай біржы.

**Артыкул 20.** Устанавіць ліміт знешняга дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь на канец 1996 года ў памеры 2 млрд. долараў ЗША. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь вызначыць пералік крэдытаў, абслугоўванне і пагашэнне якіх праводзіцца за кошт цэнтралізаваных валютных сродкаў Рэспублікі Беларусь у межах сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на 1996 год, і накіравання выкарыстання замежных крэдытаў, што прыцягваюцца ў 1996 годзе, маючы на ўвазе канцэнтраванне іх на вырашэнні пытанняў структурнай перабудовы эканомікі, мадэрнізацыі вытворчасці, рэалізацыі валютаакупных высокатэхналагічных інвестыцыйных праектаў.

Пагадзіцца з прапановамі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб:

абслугоўванні і пагашэнні з удзелам цэнтралізаваных валютных сродкаў крэдытаў, пералік якіх прыведзены ў дадатку 3;

асноўных напрамках выкарыстання крэдытаў, якія прыцягваюцца ў 1996 годзе, згодна з дадаткам 4.

Прадаставіць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь права безакцэптнага спісання сродкаў з рахункаў пазычальнікаў па замежных крэдытах у памеры плацяжоў, праведзеных з бюджэтных сродкаў у адпаведнасці з Плацежнай гарантыяй Урада Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 21.** Дазволіць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у межах асігнаванняў, зацверджаных па адпаведных раздзелах бюджэту згодна з артыкулам 4 гэтага Закона, і даходаў, якія паступаюць, прадастаўляць пазыкі ў 1996 годзе на ўмовах зваротнасці і платнасці;

ажыццяўляць залік запазычанасці прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый-падаткаплацельшчыкаў па падатках і іншых плацяжах у рэспубліканскі бюджэт у межах расходаў рэспубліканскага бюджэту на 1996 год, вызначаных артыкулам 4 гэтага Закона.

**Артыкул 22.** Устанавіць, што 50 працэнтаў прыбытку Нацыянальнага банка ў 1996 годзе штомесячна перадаецца ў даход рэспубліканскага бюджэту.

**Артыкул 23.** Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь адшукаць неабходныя рэсурсы на выплату авансаў і правядзенне разлікаў са здатчыкамі збожжа ўраджаю 1996 года для дзяржаўных патрэб па дагаворах кантрактацыі.

**Артыкул 24.** Устанавіць, што свабодныя сродкі Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці Рэспублікі Беларусь могуць размяшчацца ва ўстаноўленым парадку толькі ў дзяржаўныя каштоўныя паперы Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 25.** Устанавіць, што ў 1996 годзе ўсе сродкі, уключаючы валютныя, атрыманыя органамі дзяржаўнага кіравання, арганізацыямі Міністэрства абароны, пагранічных і чыгуначных войск, мытнымі і праваахоўнымі органамі ад рэалізацыі дзяржаўнай і канфіскаванай маёмасці, ад прымянення эканамічных і адміністрацыйных санкцый, мытныя даходы, паступленні ад выдачы ліцэнзій і дазволаў поўнасцю паступаюць у даход бюджэту.

Забараніць выкарыстанне гэтых сродкаў па-за рамкамі бюджэту для матэрыяльна-тэхнічнага і фінансавага забеспячэння дзейнасці любых органаў гаспадарчага і дзяржаўнага кіравання, уключаючы органы КДБ, МУС, Міністэрства абароны, пагранічныя войскі, мытныя службы, суды, пракуратуру, падатковыя інспекцыі, Нацыянальны банк, Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта.

Прыпыніць дзеянне апошняга абзаца артыкула 18 Закона Рэспублікі Беларусь ад 2 лютага 1994 года «Аб дзяржаўнай падатковай інспекцыі Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 7, арт.94) і артыкулаў 57 і 86 Мытнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, прынятага 3 лютага 1993 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., № 12, арт.122).

Прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь, міністэрствам і іншым цэнтральным органам кіравання прывесці нарматыўныя акты ў адпаведнасць з дадзеным артыкулам Закона.

**Артыкул 26.** Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

а) захаваць долю сродкаў, якія накіроўваюцца з дзяржаўных крыніц на фінансаванне аховы здароўя, адукацыі і культуры, не ніжэй іх удзельнай вагі ў расходах бюджэту на 1995 год;

б) у мэтах забеспячэння эканомнага і строга мэтавага выкарыстання бюджэтных сродкаў забараніць міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, абласным і Мінскаму гарадскому выканаўчым камітэтам, а таксама юрыдычным асобам ажыццяўляць не забяспечаныя планавымі асігнаваннямі расходы, якія падлягаюць пакрыццю з бюджэту;

в) у мэтах канцэнтрацыі сродкаў на важнейшых аб'ектах і будоўлях і больш эфектыўнага выкарыстання дзяржаўных матэрыяльных і грашовых рэсурсаў зацвердзіць пералікі аб'ектаў, якія фінансуюцца ў 1996 годзе за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, уключаючы аб'екты, звязаныя з ліквідацыяй вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

У інвестыцыйнай праграме на 1996 год скарацiць да мінімуму расходы на будаўніцтва новых аб'ектаў, сканцэнтраваўшы фінансавыя рэсурсы на пачатых уводных аб'ектах;

г) сродкі, прадугледжаныя ў рэспубліканскім бюджэце на фінансаванне капітальных укладанняў па вытворчай і невытворчай сферы, накіроўваць праз абслуговыя банкі на аснове тэндэра (конкурсу) з ускладаннем на іх функцыі кантролю за мэтавым і эфектыўным выкарыстаннем сродкаў. Указаныя рэсурсы па вытворчых аб'ектах выдзяляць на платнай і зваротнай аснове;

д) аб'яднаць сродкі цэнтралізаваных фондаў міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання ў інавацыйны фонд гэтых міністэрстваў і цэнтральных органаў кіравання, скараціўшы памеры адлічэнняў супраць тых, якія дзейнічалі ў 1995 годзе, у два разы.

Зыходзячы са спецыфікі работы, устанавіць для Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства паліва і энергетыкі Рэспублікі Беларусь, Беларускай чыгункі Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь павышаныя нарматывы адлічэнняў у інавацыйны фонд.

Устанавіць канкрэтныя памеры ўказаных адлічэнняў у працэнтах ад сабекошту прадукцыі (работ, паслуг) з аднясеннем на матэрыяльныя затраты;

е) вызначыць парадак і ўмовы рэалізацыі Міністэрствам абароны матэрыяльна-тэхнічных сродкаў, аказання платных паслуг і здачы другасных рэсурсаў і накіравання выручаных сродкаў на ўтрыманне абароны і праваахоўных органаў Рэспублікі Беларусь, уключаючы будаўніцтва жылля для ваеннаслужачых, звыш прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце асігнаванняў на ўказаныя мэты;

ж) у мэтах павышэння эфектыўнасці выкарыстання сродкаў на закупкі распрацаваць і зацвердзіць Палажэнне аб падрыхтоўцы і правядзенні тэндэраў на закупкі за кошт выдзеленых Урадам Рэспублікі Беларусь сродкаў бюджэту, а таксама па праектах, якія фінансуюцца за кошт сродкаў замежных крэдытаў, якія прыцягваюцца пад гарантыі Урада Рэспублікі Беларусь.

Арганізацыям, якія ўпаўнаважаны Урадам Рэспублікі Беларусь ажыццяўляць закупкі за кошт сродкаў бюджэту, а таксама рэалізуюць праекты за кошт сродкаў замежных крэдытаў, прыцягнутых пад гарантыі Урада, забяспечыць пры арганізацыі і правядзенні тэндэраў адкрытасць працэдур закупак і ўдзел у закупках пастаўшчыкоў усіх форм уласнасці незалежна ад дзяржаўнай прыналежнасці;

з) разгледзець заўвагі і прапановы пастаянных камісій і дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, выказаныя пры абмеркаванні бюджэту на 1996 год, і прыняць па іх адпаведныя рашэнні;

і) у месячны тэрмін распрацаваць і прадставіць ва ўстаноўленым парадку Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь механізм секвестру расходаў рэспубліканскага бюджэту;

к) да 1 красавіка 1996 года вырашыць пытанне аб увядзенні статыстычнай справаздачнасці, якая характарызуе выкананне рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў як па відах бюджэтаў, так і ў разрэзе тэрыторый;

л) у першым паўгоддзі распрацаваць і ва ўстаноўленым парадку ўнесці на зацвярджэнне ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб класіфікацыі даходаў і расходаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў Рэспублікі Беларусь».

**Артыкул 27.** Прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь унесці ў трэцім квартале 1996 года на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падрыхтаваныя Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь праекты заканадаўчых актаў: Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь», аб унясенні змяненняў у законы Рэспублікі Беларусь «Аб культуры», «Аб ахове здароўя», «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу», а таксама прапановы, накіраваныя на ўдакладненне ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь, удасканаленне і скарачэнне расходаў на ўтрыманне органаў дзяржаўнай улады і кіравання, вызначэнне парадку зацвярджэння колькасці і фінансавання органаў унутраных спраў, аб фарміраванні і выкарыстанні дзяржаўных пазабюджэтных фондаў.

**Артыкул 28.** Устанавіць, што да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам дадзенае заканадаўства прымяняецца пастолькі, паколькі яно не супярэчыць гэтаму Закону.

Дзяржаўным органам Рэспублікі Беларусь прывесці свае акты ў адпаведнасць з гэтым Законам на працягу двух месяцаў з даты яго ўступлення ў сілу.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь** **А. ЛУКАШЭНКА**

19 красавіка 1996 г., г. Мінск. № 279-XIII

(Дадаткі да Закона гл. на 4-й стар.)

* Далей па тэксту — надзвычайны падатак.

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 17 (36)




## ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАЕЦЦА

- прадаецца альбо здаецца па дагавору дом з садам, агародам у Гомельскай вобласці, пасёлак «Акцябрскі».
*Тэл. (0172) 32-85-40.*
- двухступенчатая сістэма фільтравання пітной вады ЕКО-222.
*Тэл. (01634) 42-5-39.*
- міні-трактар МТЗ-082 з глебаапрацоўчым абсталяваннем 1700$.
*Тэл. у Слуцку (8-295) 2-47-98.*
- матацыкл «Урал-3» у рабочым стане — 200$, акардыён у добрым стане — 40$.
*Тэл. у г. п. Мір 2-32-49.*
- маладая карова.
*Тэл. у Стоўбцах 3-46-53.*
- дача, 7 сотак, драўляны дом на беразе Вяллі.
*Тэл. у Смаргоні 2-17-10, вечарам.*
- пліта настольная газавая з рэдуктарам, новая — 40$.
*Тэл. 94-66-17.*
- драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі на беразе возера Лісная Верхнядзвінскага раёна.
*Тэл. у Полацку 3-04-35, у Верхнядзвінску (8-251) 2-88-14.*
- дом за 15 км ад Смаргоні, цагляна-блочны 10х13, з тэлефонам, 0,6 км ад чыгункі, на беразе р. Ашмянкі.
*Тэл. (8-217) 5-31-34. п/а Дзераўное.*
- драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі, 18 км ад Слуцка.
*Пісаць: 223130, Плешчаніцы, вул. Касманаўтаў, д. 25, кв. 11. Бычак Л. І.*
- тэрмарэле да бытавых халадзільнікаў Т-112, Т-133, Т-145, кампрэсары.
*Тэл. у Слуцку (01795) 2-27-10; 2-25-56.*
- ЗИЛ-ММЗ 75 г. в. у добрым стане, нядорага, рухавік новы.
*Тэл. (0172) 71-13-53 пасля 18.*
- бытавыя сістэмы ачысткі пітной вады ЕКО-222, іанізатары паветра для дома, аўтамабіля.
*Тэл. (8-01634) 4-25-39.*
- дом з гаспадарчымі пабудовамі, 25 км ад Навагрудка, 0,35 га зямлі.
*Тэл. (8-0172) 24-77-67, 70-60-84.*
- дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Тальмінавічы Брэсцкай вобл.
*Тэл. (8-233) 5-47-45.*
- дом 55 кв. м з садам і гаспадарчымі пабудовамі, 20 км ад Магілёва, ст. Дашкаўка — 4000$.
*Тэл. (8-222) 42-67-56.*
- саматканае льняное пакрывала (цана дагаворная) у в. Майскае Жлобінскага раёна. *Тэл. 75-977. Куксачоў В. П.*
- дачны ўчастак 15 сотак, 6 км ад Валожына Мінскай вобл.
*Тэл. у Валожыне 58-386.*
- дом драўляны з гаспадарчымі пабудовамі на плошчы 0,25 га з садам.
*Тэл. (8-245) 48-2-17.*
- драўляны дом 10х11 з гаспадарчымі пабудовамі, пячное і вадзяное ацяпленне. Ст. Мазыр Гомельскай вобл.
*Тэл. 3-65-34.*
- дом драўляны па адрасу: *247046, Гомельскі раён, п/а Грабаўка, вул. Маскоўская, 46.*
- дом з гаспадарчымі пабудовамі і садам у Ваўкавыскім раёне, прыпынак «Санаторый «Рось».
*Тэл. у Навагрудку 30-455.*

### РОЗНАЕ

- Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў новым доме ў курортным гарадку Бароўка Віцебскай вобл. на раўназначную ў Мінску альбо Мінскай вобласці.
*Звяртацца: Мінская вобл., Дзяржынскі раён, п/а Волма, вул. Камсамольская. Маркевіч В. В.*
- Электрамантажныя работы, падключэнне электраабсталяваннz, рознае...
*Тэл. (0172) 63-10-22.*
- Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў г. Докшыцы на г. Вілейку, Мінск, Маладзечна альбо прадам.
*Тэл. у Докшыцах 2-17-75.*
- Кладу печы, каміны любой канструкцыі.
*Тэл. (270) 55-7-91.*



## «СЛЁЗЫ СТАЛІНА» — З'ЯВА РЭДКАЯ!

Спіртны напой, зроблены ў Чэхіі, з такой звышарыгінальнай назвай можна сёння набыць на фестывалі міжнародных выставак «Гастраномія. Салодкае—горкае», які пачаў сваю работу ў Мінску.

Салодкага і смачнага на стэндах, безумоўна, значна больш, чым гарэлак, каньякоў і він. Свае вырабы прадставілі вядомыя беларускія і замежныя фірмы. Беларускім экспанентам арганізатары зрабілі значную скідку ў аплаце за ўдзел у выстаўцы. Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь і выставачнае прадпрыемства «Эксібішн сісцім» запрасілі да ўдзелу ў экспазіцыі гасцей з дзевяці краін. У мінскім Палацы культуры чыгуначнікаў, дзе праходзіць фестываль, можна ўбачыць і набыць ласункі з Бабруйска, мясныя далікатэсы з Францыі, прадукты з Санкт-Пецярбурга, Чэхіі, Славакіі.

**На здымку:** мінскі менеджэр Вера Балуева вядзе перамовы з прадстаўнікамі чэшскіх фірмаў — вытворцаў салодкіх вырабаў.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Абанент 183.** Пражыў я ў адзіноце крыху больш за 50, але сваю палавінку, якую хацеў бы назваць любай жонкай і пяшчотнай маці, не знайшоў.

Хацелася б, каб яна была ва ўзросце да 42 гадоў, не была раней у шлюбе, мела невялікі рост, марыла аб сваім дзіцяці і жыла ў гарадской кватэры. Я па натуры сваёй чалавек сціплы, без дрэнных звычак, люблю ўсё прыгожае, прыроду, літаратуру, пішу вершы. Адзін з іх дасылаю разам з аб'явай.

*222120, г. Барысаў-9, а/с 300, Уладзіміру.*

О, колькі вёсен, колькі зім
Цябе са мной няма.
Быў, мусіць, я тады другім,
Ці, можа, ты сама.
Цяпер жа цяжка уявіць.
Назваць мо той сакрэт,
Жыцця ляжала сцежка-ніць
І ліўся жыцця свет.
І тую ж ніць, і той жа свет,
Было нам цяжка перайсці,
Бо, мусіць, шчасця весні цвет
Не стаў для нас цвісці.

**Абанент 184.** Мне 30 гадоў. Замужам не была. Дзяцей няма, жылля няма, багацця няма, адукацыі няма, прыгажосці няма. Ёсць прыстойнасць і сумленне. У першую чаргу цаню гэта ў людзях, а яшчэ дабрыню.

**Абанент 185.** Жадаю пазнаёміцца з жанчынай да 65 гадоў, пенсіянеркай, адзінокай, якая згодна на пераезд. Мне 67 гадоў. Жыву адзін у сельскай мясцовасці, маю невялікую гаспадарку. Пажадана, хто ведае вясковае жыццё і работу.

**Абанент 186.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 40 гадоў, без шкодных звычак. Аб сабе: 33/164. Яўрэйка, замужам не была. Асоб з месцаў зняволення прашу не пісаць. Адрас: г. Полацк-14, уладальніку пашпарта ІІ-РО № 732195.

*ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ*

## ЦІ МАЮ Я ПРАВА НА ПРЫБАЎКУ ДА ПЕНСІІ?

***«Я працую качагарам, ацяпляю школу. Калі ацяпляльны сезон заканчваецца, іду ў калгасную брыгаду. За 25 гадоў работы маё здароўе рэзка пагоршылася, і зусім не выпадкова: пераважную частку часу працую з вугалем. Ці маю я льготы пры назначэнні пенсіі?»***

— На жаль, не. Згодна са спісам № 2, які быў зацверджаны яшчэ пастановай СМ СССР 22.05.56 г. і дзейнічаў на тэрыторыі нашай рэспублікі да 1.01.92 г., права на льготнае пенсіённае забеспячэнне прадастаўлялася качагарам вытворчых кацельняў і печаў, напрыклад, качагарам пральных, лазняў. Кацельня школы не прызнавалася вытворчай, таму работа качагарам у спецыяльны стаж не залічвалася.

***«Яшчэ да вайны я і мае браты засталіся без бацькоў. Я была старэйшая (15 гадоў) і ўвесь цяжар лёг на мае плечы: браты былі зусім маленькія. Я іх выхоўвала да паўналецця. Чула, што, паколькі я сама была непаўналетняй, то мне могуць вызначыць надбаўку да пенсіі».***

— Не. Надбаўка вам не належыць. Догляд малалетніх братоў і сясцёр заканадаўствам як работа не прадугледжаны, і ў працоўны стаж той час не залічваецца.

**Наталля ДОЎНАР,**
**юрыдычны кансультант «Звязды».**

## ДА ЎВАГІ РАБОТНІКАЎ ПОШТЫ!

**Рэдакцыяй газеты «Звязда» падведзены вынікі раней аб'яўленага конкурсу па падпісцы на «Звязду» сярод раённых вузлоў сувязі. За дасягненне лепшых колькасных паказчыкаў пры правядзенні падпіскі на нашу газету на другі квартал гэтага года прэміямі ўзнагароджаны:**

**1. Слуцкі РВС — 3.000.000 рублёў**
**2. Капыльскі РВС — 2.500.000 рублёў**
**3. Навагрудскі РВС — 2.000.000 рублёў.**

**Згодна з умовамі конкурсу заахвочвальнымі прэміямі ў памеры 300.000 рублёў узнагароджаны:**

**Ляхавіцкі, Глыбоцкі, Жлобінскі, Карэліцкі, Вілейскі, Глускі, Брагінскі, Валожынскі, Клецкі і Лідскі раённыя вузлы сувязі.**

**Рэдакцыя «Звязды» прадаўжае конкурс сярод раённых вузлоў сувязі па выніках падпіскі на трэці квартал. Умовы ранейшыя.**

**На пасяджэнні рэдакцыйнай калегіі 13 мая прынята рашэнне аб захаванні ўмоў конкурсу на трэці квартал.**

**Рэдакцыя ўдзячная ўсім паштовым работнікам, якія сваёй працай садзейнічаюць пашырэнню кола чытачоў адзінай штодзённай беларускамоўнай газеты.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) ____________ (адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

| Кошт | падпіскі | _____ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | _____ руб. | | |

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) ____________ (адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

# Вяртанне да хлеба

**ГЭТАЙ ВЯСНОЙ не толькі даўно нябачаная паводка заліла нізіны ля рэк і шматлікіх нашых азёр. І ў сталіцы паводка на вуліцах і плошчах зрабіла вясну 96-га адметнай ад іншых. І за гэтым неяк згубілася, стала не такой прыметнай пасяўная кампанія. Увогуле ж, мяркуючы па-людску, і кампаній нам аніякіх не трэба. Хлебаробы няхай проста сеюць, рабочыя проста працуюць ля станкоў, студэнты — проста вучацца ў сваіх аўдыторыях, палітыкі — проста засядаюць у Авальнай зале. Вось толькі, на жаль, не можам мы ніяк дачакацца такога простага і Богам дадзенага распарадку. Таму ў сельскай гаспадарцы, у большасці нашых сельскагаспадарчых аб'ектаў сяўба альбо ўборка становяцца КАМПАНІЯЙ. Адсюль вынікаюць і трывожныя весткі з месцаў, і прарывы, і аўралы, і ў апошні час абавязковае патрабаванне мільярдных уліванняў. (Інакш — не пасеем, інакш — голад). Таму, шчыра кажучы, у апошні час стараюся адшукваць тыя гаспадаркі — калгасы і саўгасы, дзе не плачуць і не патрабуюць, дзе не навучыліся толькі «выбіваць» і марнаваць, але дзе ўсё яшчэ жывуць па-сялянску распарадліва, ашчадна, разлічваючы толькі на сябе. І, ведаеце, гэта ўсё яшчэ ўдаецца. Ёсць на карце маёй роднай Віцебшчыны, скупа надзеленай прыродай, такія адрасы. Чарговы з іх — калгас «За Радзіму», што на Глыбоччыне.**

## УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА З ПОЛУДНЯ

Калгасная сталовая ў Удзеле, на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі, уласна кажучы, цяжка назваць і сталовай. Знешне прывабны будынак — само сабой, але і ўнутраная аздоба стварае ўтульнасць, прыемную прахалоду ў майскі спякотны дзень. Хоць харчуюцца на час сяўбы ў сталовай 120 механізатараў, вадзіцеляў, іншых работнікаў, занятых на самай гарачай рабоце, — ніякай чаргі няма. Людзей падвозяць на некалькіх машынах, і той, хто ўжо папалуднаваў, прылёг на траўку ля сталовай, нехта яшчэ есць свой смачны абед — смачны і паўнацэнны нават для хлебароба — магу засведчыць гэта як чалавек, які сам пакаштаваў яго. Такі абед у любой сталовай пацягне на шмат тысяч, калгаснікі ж не плацяць за яго пакуль што нічога. Потым ужо, праз месяц пасяўной, вылічаць з заробку па дзве з паловай тысячы за кожны полудзень. Смешная, вядома ж, лічба, але ў калгасе ідуць на гэта найперш з клопатам пра людзей — што ты ўвесну дома адшукаеш, каб добра падсілкавацца? А ў «тармазок» што прыхопіш, акрамя сала? А тут усё прыгатавана смачна, са сваёй ялавічыны, свініны, — для гэтага, дарэчы, завялі і невялічкую свінаферму.

Ёсць, я разумею, у кіраўніцтва калгаса яшчэ адна задача. Калі б не было такіх полудняў — колькі б тэхнікі адпраўлялася з палёў па вёсках. Вырашылі тут, што лепш і механізатара прывезці з поля ў сталовую, чым везці яму абед да месца працы. Не той будзе абед, сапраўды. Ды тут жа, у сталовай, зможа механізатар паглядзець, колькі ён зарабіў за папярэдні дзень, колькі зарабілі таварышы — па ўсіх відах работ канкрэтныя прозвішчы, выпрацоўка, якасць работы, сума аплаты загадзя падрыхтаваны.

Прыгледзеўся я больш уважліва да заработкаў хлебаробаў. Шчыра кажучы, асабліва зайздросціць няма чаму. Ды і не мае права праўленне калгаса, калі б нават мела магчымасць такую, устанаўліваць свае, больш высокія, чым рэкамендаваныя, расцэнкі.

Затое ў калгасе «За Радзіму» выклікае прыемнае здзіўленне іншае. Тут, напрыклад, як толькі дазволілі калгасніку мець уласны свой гектар зямлі, сабралі людзей і пераканалі, што, сапраўды, палову гектара трэба і выгадна мець ля ўласнага падвор'я — бульба, цыбуля, морква патрэбны заўсёды. А вось пра астатнюю палову гектара клапоціцца калгас. Гэтыя 330 гектараў уведзены ў калгасны севазварот. І ў праўлення апрацоўка гэтай зямлі — такі ж клопат, як і астатняя яравая сяўба. Гаспадарка поўнасцю бярэ на сябе клопат пра вырошчванне ўраджаю. Восенню і сушыць зерне, а потым ужо раздае яго па дварах. У залежнасці ад ураджаю атрымліваецца тона, а то і паўтары. Хочаш — кармі ўласную жывёлу, хочаш — прадавай.

Спадабалася мне ў калгасе «За Радзіму» многае. Шмат пабачыў за гэтыя гады забітых наглуха калгасных кацельняў — і людзі, і ўстановы сацкультбыту былі кінуты на волю лёсу. Ацяпляйцеся як хочаце, а грошай у нас няма. А тут у пачатку мінулай зімы набылі 500 тон мазуту. І ўвесь сацкультбыт, і 70 кватэр калгаснікаў ацяпляліся да 24 красавіка. Ды што казаць, дзіцячы садок не прыкрылі, свая бальніца дзейнічае. Ёсць нават спецыяльны калгасны легкавічок, калі трэба тэрмінова адправіць хворага нават у Віцебск. Хоць амаль што няма лішніх грошай, усё-такі сёлета плануюць дабудаваць чатыры дамы для калгаснікаў. Жывуць, адным словам. А за кошт чаго жывуць?

## ХЛЕБ УСЁ-ТКІ — ГАЛАВА

Калгас, па мерках Віцебшчыны і Глыбоцкага раёна немалы. Каля 5 тысяч гектараў сельгасугоддзяў, амаль 2,5 тысячы гектараў ворыва, 1100 кароў ды яшчэ каля дзвюх тысяч галоў буйной рагатай жывёлы. Да апошняга года было тут нямала лёну. Але пакуль што нават за мінулы ураджай Мосарскі льнозавод не вярнуў 100 мільёнаў доўгу. Таму ў гаспадарцы яўны курс на скарачэнне гэтай культуры. Асноўны напрамак у раслінаводстве — насеннае збожжа. Да тысячы тон штогод прадаюць яго гаспадаркам раёна. І гэта дае свой прыбытак — насеннае ж збожжа каштуе ці не ўдвая даражэй. Затое і вырошчваць яго значна цяжэй. Ураджаю менш як трыццаць цэнтнераў тут не бывае. А бывае і за сорак, а азімыя даюць і пад пяцьдзесят. І гэта на Віцебшчыне, дзе пра ўраджаі гавораць усё часцей з горкай усмешкай.

Пра ўраджай пачынаюць думаць, як вядома, загадзя. У гэтай гаспадарцы ўсё большую перавагу аддаюць азімым жыту і пшаніцы. Больш спрыяльная для гэтага сама глеба, а галоўнае — надвор'е. Вось і сёлета, нібыта ўсё вельмі няпроста складвалася зімой ды і вясной, а ездзіў я па палях калгасаў і проста рукамі разводзіў — такая стаіць азіміна. Сакавітая, густая, здаецца ўжо, пагойдвае яна сваімі каласамі пад веснавым ветрыкам. Далося гэта, зусім няпроста. Мала таго, што своечасова і якасна ўвосень пасеялі. Вясной убачылі: патрабуюць раслінкі тэрміновай падкормкі. А на поле трактару не ўехаць. Вось і ўзялі калгаснікі ў рукі сявенькі, як раней, і дружна рушылі на палі падсыпаць угнаенні. Не ўсе 630 гектараў, але значную частку іх падкармілі ўручную.

Я пабываў у калгасе ў самым пачатку мая. Вясна прытрымала ўсе работы, але да 10-га ў калгасе спадзяюцца справіцца з сяўбой яравых, застанецца толькі папрацаваць з гарохам. Але гэта ўжо асобная гаворка.

## «ЗЯЛЁНЫ» ПАДСОБНЫ ЦЭХ

Ведаеце, шмат даводзіцца бываць на вёсцы, пісаць аб жыцці ў ёй, і заўсёды з асаблівай павагай стаўлюся да гаспадарак, дзе не падаліся павевам часу, не адчынілі падсобных цэхаў, напрыклад, па вытворчасці грабеньчыкаў ці коркаў для нашых славутых «фаустаў» ці, тым больш, не адчынілі ў райцэнтрах крамаў па продажы «снікерсаў» і гарэлкі. Зямля дадзена чалавеку, каб вырошчваць на ёй хлеб і да хлеба. Гэта няпростая праца, але ж гэта і гонар хлебароба, продкамі і Богам дадзены яму абавязак.

Вось і ў Удзеле няма такіх крамаў ці падсобных цэхаў. Але ўжо гадоў восем назад пачалі тут вельмі непрывычную і нават спачатку дзіўнаватую справу — вырошчванне зялёнага гарошку. Не, гэта не тая пялюшка, у якую многія з нас лазілі на калгасныя палі ў дзяцінстве. Гэта сапраўдны харчовы зялёны гарошак, далікатэс, як цяпер сцвярджаюць навукоўцы, нават быццам бы выводзіць з арганізма непатрэбнае. Дастаткова сказаць, што на Віцебшчыне такім вырошчваннем больш ніхто не займаецца. Ёсць некалькі гаспадарак на Беларусі, усяго на ёй засяваюць гэтай культурай 1200 гектараў. З іх 300 у калгасе «За Радзіму». Тут закуплена спецыяльная тэхніка, працаю многіх людзей адштукавана тэхналогія. Усё даецца няпроста. Ну, напрыклад, закупляюць насенне толькі на поўдні. Цяпер, калі няма ранейшых сувязей, змаглі адшукаць гэта насенне ў Венгрыі — 80 тон. А з дастаўкай каштуе гэта каля 50 тысяч долараў. Удалося ўсё-такі знайсці пазыку — справа для рэспублікі вельмі неабходная. Ды і з венгерскімі ўборачнымі камбайнамі — а іх чатыры — управіліся, будуць гатовы да ўборкі. Другое, што і сеяць трэба гарох не ўвесь адразу, а рознаспелымі сартамі, каб паспяванне ішло неадначасова. Мясцовы кансервавы камбінат, дзе ёсць лінія па перапрацоўцы гароху, таксама венгерская, прымае ў суткі толькі па дваццаць тон на працягу месяца. Таму ўдзень можна ўбіраць па 5-6 гектараў, спецыяльна зацягваючы спачатку сяўбу, а потым і ўборку. Цяжэй стаў разлічвацца за гарох кансервавы камбінат. І ўсё-такі культура дае працэнтаў 25 рэнтабельнасці. Але і гэта не ўсё. Грошы ж за гарох пачынаюць плаціць пры яго ўборцы ў канцы чэрвеня. А ў гэты час у гаспадарках — хоць шаром пакаці. Тут жа нейкая капейчына. Гарох дае шмат зялянiны на сілас. Потым жывёлу пускаюць на палеткі і яна паядае ўсе рэшткі.

Але досыць. Сам адчуваю, што занадта захапіўся тэхналогіяй. Ды гэтаму ёсць апраўданне, бо на вёсцы сёння часцей гавораць пра грошы, дакладней, пра іх адсутнасць, чым непасрэдна аб справах сялянскіх. І яшчэ адчуваю адзін папрок — а дзе ж людзі, чаму няма імёнаў? Можна было б назваць і імёны. У калгасе, як і ўсюды на вёсцы, большасць цудоўных, працавітых яшчэ і сёння людзей. Ёсць і тыя, хто можа схавацца за чужую спіну ці зазірнуць не туды, — як і ўсюды на вёсцы. А вось імя старшыні не назваць не магу. Спецыяльна ні разу яго не напісаў, каб у канцы артыкула прагучала яно больш запамінальна: Іосіф Цімафеевіч Валасевіч. Шэсць гадоў узначальвае гаспадарку, вучыўся і ў тэхнікуме, і ў інстытуце, эканаміст па адукацыі, хлебароб па характару. Рознае можна пачуць пра яго на вёсцы. Больш добрага. Жыве там, дзе і працуе, сярод аднавяскоўцаў. Асабнякоў не мае.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*Віцебская вобласць.*

*РЭПАРТАЖ З ГЛЫБІНКІ*

# НАМ БЫ НОЧ ПРАСТАЯЦЬ ДЫ ДЗЕНЬ ПРАТРЫМАЦЦА...

**Падчас выбарчай кампаніі ў апошні Вярхоўны Савет СССР мне прыйшлося стаяць у пікеце, які быў арганізаваны супраць аднаго з наменклатурных кандыдатаў. Людзі трымалі лозунг, які ганьбіў тагачасных партыйных кіраўнікоў за тое, што яны асушэннем Палесся загубілі гэты край.**

Тады толкам ніхто нічога не ведаў. Часта карысталіся нейкімі чуткамі ці звесткамі з газет, і як правіла крытычнымі. І вось праз шэсць гадоў выпала нагода многае ўбачыць на свае вочы.

У кабінеце старшыні Лунінецкага райвыканкома А. Волчака вялася размова пра рознае, але ўсё ж галоўным чынам датычала паводкі меліярацыі ды калгасаў. Справа ў тым, што паводка на Луніншчыне, нягледзячы на самыя горшыя прагнозы, была спакойнай. І гэтаму ў многім спрыяла меліярацыйная сістэма. Аляксандр Іванавіч параіў наведаць калгас імя Леніна і паглядзець, як жывуць людзі ў «палескай глушы».

Гэты калгас — самы далёкі ад райцэнтра. Амаль пяцьдзесят кіламетраў прыйшлося ехаць у глыб Палесся. Да меліярацыі гаспадарка мела 220 гектараў зямлі, а пасля асушэння — пяць тысяч і працягнулася на 35 кіламетраў. Так што ў плане меліярацыі калгас паказальны.

У шырокім аспекце асушэнне балот налажыла свой адбітак на клімат рэгіёна і ўнесла карэктывы ў жыццё палешукоў. На Палессі пракладзена цэлая сетка добрых дарог. Фактычна без праблем можна даехаць да любога калгаса. Вось і ад Лунінца амаль увесь час ехалі асфальтам. Зелянелі азімыя і не было відаць палёў, залітых вадой, хаця паводка дасягнула свайго апагея. Старшыня калгаса І. Гушчэня растлумачыў, што вада збіраецца ў меліярацыйных канавах, а калгас яшчэ задоўга да разгару паводкі пачаў рэгуляваць спуск талай вады. Дрэнажная сістэма, калі яна зроблена якасна, нараканняў не выклікае, хаця эксплуатуецца ўжо каля 30 гадоў. Сёння меліярацыйная сістэма ў запушчаным стане, і гаспадаркам прыходзіцца сваімі сіламі абслугоўваць яе. Калгас імя Леніна прачысціў звыш 100 км меліярацыйных каналаў.

— А было б добра, каб нейкі працэнт ад падаткаў на зямлю выдзяляўся і на падтрымку меліярацыйных збудаванняў, — разважаў старшыня калгаса.

Сярод двух дзесяткаў гаспадарак раёна калгас, якім кіруе Гушчэня, трымаецца ў верхняй частцы «турнірнай табліцы» і мае добрыя паказчыкі, якія гавораць, што асушаныя балоты, гэта не перасохлыя тарфянікі, а ўрадлівыя землі.

Летась бульба дала 615 млн. рублёў прыбытку пры рэнтабельнасці 164 працэнты, а рэнтабельнасць агародніны — 230 працэнтаў. У той жа час у спрыяльныя гады збіралі па 32 ц збожжа з гектара. На фермах калгаса ўтрымліваецца 3400 галоў буйной жывёлы і скарачэння статку не было, бо з кармамі праблемы не існавала.

Хачу звярнуць увагу яшчэ на адну асаблівасць. На 630 чалавек працуючых у калгасе прыпадае 1080 пенсіянераў. У параўнанні з іншымі сельскімі рэгіёнамі гэтыя лічбы не засмучаюць. У Беларусі ёсць калгасы, у якіх пражывае каля 80 працэнтаў састарэлых людзей. А тут 120 чалавек, галоўным чынам моладзь, не маюць працы. І каб вырашыць гэтую праблему, у Івана Іванавіча ёсць задума адкрыць цэх па перапрацоўцы журавін, чарніц, брусніц, але мара старшыні, відаць, марай і застанецца.

Складваецца ўражанне, што нашы калгасы асуджаны на развал, і не па сваёй віне. Многія нашы праблемы зноў жа хочуць вырашыць за кошт вёскі. І тут справа нават не ў неплацяжах калгасам з боку дзяржаўных прадпрыемстваў, якія пастаянна растуць, а ў тым, што ў нашай сельскай гаспадарцы ўладарыць нейкая эканамічная какафонія. Тут усё перамяшалася — рынак, план, рэгулюемы рынак, загады. Гэта не дае магчымасці калгасам спакойна развівацца, пазбаўляе перспектывы, стрымлівае ініцыятыву. Як можа гаспадарка быць эканамічна стабільнай і рэнтабельнай, калі тэхніку, бензін, угнаенні і г. д. прыходзіцца купляць па рыначных цэнах, а сваю прадукцыю павінны прадаваць па фіксаваных, ды яшчэ і план спускаецца зверху? Вось і атрымалася, што цана тоны мяса раўняецца цане тоны дызпаліва. Адсюль і ўвесь дыспарытэт цэн, пра якія так многа гаворыцца на розных узроўнях. Мы чамусьці забылі, што калгасы не з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю. Безумоўна, дзяржава павінна рабіць свой уплыў на сельскую гаспадарку, але тут неабходна ўключыць эканамічныя рычагі. Удалая падатковая палітыка, як і льготныя крэдыты, можа стымуляваць дзейнасць гаспадарак у выгадным для дзяржавы плане.

Пакуль жа ўсё наадварот. Дзяржава ўмешваецца ва ўсё. І. Гушчэня апавядае пра пажарную каманду свайго калгаса. Высокім указам такія каманды пераўтвараюцца ў ваенізаваную ахову, якая падпарадкоўваецца ўжо свайму начальству ў раёне. І функцыі пажарных ужо крыху звузіліся. Калі загарыцца ў полі збожжа, то могуць і не тушыць, бо ў іх свае ўстаноўкі. Хаця «пажарныя» падаткі цяпер калгас плаціць большыя, чым абыходзілася ўтрыманне сваіх барацьбітоў з агнём.

Вось і на продаж бульбы адпусцілі цану, але адначасова ўстанавілі абмежаванні. За наяўныя грошы можна прадаць толькі на 5 млн. рублёў у месяц. Хаця прыезджыя камерсанты выкладваюць грошы ў некалькі разоў большыя.

Нягледзячы на ўсе неспрыяльныя ўмовы, калгас выплачвае людзям зарплату своечасова. І кіраўніцтву прыходзіцца шукаць любую магчымасць для эканоміі. Прамыя, без пасрэднікаў, закупкі запчастак і ўгнаенняў дадаткова далі гаспадарцы 208 млн. рублёў. А ўсяго за 1995 год эканомія энергарэсурсаў, паліва і г. д. склала 760 млн.— а гэта калгасная зарплата за тры месяцы.

На заканчэнне размовы я спытаў у старшыні калгаса, ці неабходна рэарганізацыя калгасаў і ці патрэбны рынак? І ён сказаў, што выступае за рынак і рэарганізацыю, але рэальную, а не папяровую. Дарэчы, гэтак жа лічаць усе кіраўнікі, якія не згубілі надзеі выстаяць.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

Лунінецкі раён.

*«НА ГЭТЫ РАЗ НЕ БЫЛО НІЯКАЙ НАДЗЕІ»*
**Джэймс Джойс**

***Дзеці з працягнутай рукой ля камерцыйнага кіёска, дзеці — з пачкам цыгарэт у радах гандлюючых «элэмаўцаў», дзеці з нажом і пятлёй — як дарослыя... «Час стварае сваіх пачвар», — сказаў нехта з вялікіх. А дзеці гэтых пачвар адбіваюць, быццам люстэрка, халоднае і раўнадушнае. Тым не менш, гэтыя маленькія «чалавекі» застаюцца дзецьмі — сумуюць па дамашняму ачагу з мудрым бацькам і клапатлівай маці, з адданым сабакам і банальнай раннай кашай. Так-так, сярод будучых Ламаносавых і Пушкіных не-не ды і прамільгне твар будучага Аль-Капоне. «Мафікі» (як дазволю іх сабе назваць па аналогіі з дарослымі мафіёзі) праяўляюць часам жудасную жорсткасць і бязлітаснасць, імкнучыся быць падобнымі на герояў заходніх баевікоў з закасанымі па локаць рукавамі і аўтаматамі наперавес, якія забіваюць людзей. Проста так, дзеля забавы. «Мафікі» іх пераймаюць.***

# «МАФІКІ»

## «ДЗЯДЗЕЧКА, ДАЙ «АКЦЫЗ»!»

Гэтых дзяцей можна ўбачыць ля «камкоў», яны старанна «сартуюць» людскі натоўп па разрадах і катэгорыях. У іх прафесіянальна спрактыкаванае вока — да каго падысці і што папрасіць. Ці існуюць групоўкі? Безумоўна. Гэта самыя прымітыўныя групкі чалавек па пяць-шэсць, якія з інтарэсу (не толькі грашовага) сабраліся на вуліцы. Раней такія гулялі ў казакоў-разбойнікаў, цяпер яны знайшлі сабе гульню куды цікавейшую — у «акцызы», што прыносіць невялікі, але стабільны даход. Несвядома падбіраюць самых «жаласлівых» і самых нахабных (зрэшты, дзе вы цяпер сустрэнеце робкага падлетка!) Гэта і ёсць арганізацыя! Спроба — рэч геніяльная. Тым больш, што ёсць наглядны прыклад на экранах «відзікаў» з мордамі і кулакамі. Ні з чым іншым.

Андрэй (так завуць аднаго майго малалетняга сваяка) з групай такіх жа лайдакоў снаўдаўся ля кіёскаў. Іншы раз з інтарэсу прасіў сам — хутка надакучвала. Тады выстаўляў сваіх «шасцёрак» (як ён гаварыў). Смешна, праўда? А вось мне не вельмі — даводзілася бачыць іншы раз бойку такіх «акцызнікаў» — з-за грошай. Калі не падзялілі. Было як у дарослых. Нават нагамі білі, па снезе качалі. Адзін ножык выхапіў, праўда, несапраўдны (кітайская цацка). Але сам факт: школьныя ўрокі застаюцца далёка за рысай вулічных інтарэсаў — толькі б пашанцавала, хоць бы дзянёк выдаўся грашавітым. А там можна на што-небудзь і разжыцца. «Акцызнікі» часцей за ўсё купляюць усялякую дробязь — ліхтарыкі, жвачкі, запальнічкі. Дзякуй Богу, пакуль яшчэ не гарэлку. Хоць здараюцца і такія выпадкі. Кураць практычна ўсе — ад малога да вялікага. Прычым самыя танныя цыгарэты. Да недакуркаў у сметніцах, праўда, не апускаюцца. Але цыгарэтку-другую купляюць у ларках за выручаныя грошы з бачным задавальненнем. Зацягваюцца важна, як дарослыя: праз зубы сплёўваюць, і паходку размашыстую капіруюць. А як жа! Штурхае дзяцей да ларкоў не толькі нястрымнае жаданне падзарабіць. Іншы раз сустракаюцца тут проста няшчасныя, выкінутыя з дому беднасцю. Хоць кожны, хто прыйшоў да ларка за «акцызам», нечым ды абдзелены. Ну хоча дзіця шакаладку ці жвачку. А як яму бацькі купяць, калі самі ледзь канцы з канцамі зводзяць? Калі грошы на заводзе апошні раз атрымалі паўгода таму назад? А каля ларкоў, глядзіш, і перахопіш сёе-тое. Знойдуцца спагадлівыя людзі, у якіх ёсць грошы, кінуць акцызныя марачкі ці пару тысяч у маленькія брудныя ручкі, «ашчаслівяць». Менавіта тут, ля кіёскаў, і пачынаецца для многіх «мафікаў» сапраўдная «школа жыцця».

## «БАРСУКІ»

**Многія малалетнія насельнікі «дна» вельмі непасрэдныя, калі разгортваюць ажыўленую дзейнасць. Быццам бы ўсе яны навучыліся трывіяльна «біць па нервах» беларускіх грамадзян, а вось прывыкання не атрымліваецца. Даюць ім і на хлеб, і на сальца...**

Наступная група «мафікаў» — дзеці, якія здабываюць грошы ў розных кафетэрыях, піўнушках. Праўда, да апошняй установы іх не падпускаюць учэпістыя старыя, якія ўжо даўно аблюбавалі гэтыя забягалаўкі і жывуць за кошт падпітага «працоўнага народа». Як трутні — там бутэлечку здадуць, там піўка глынуць. А «мафікам» сюды дарога заказана. Ды і ў «кафешках» іх не заўважыш. Але сям-там усё ж ёсць. У адным з мінскіх кафетэрыяў працуюць двое: невялікага росту няўсмешлівы бялявы Дзіма і яшчэ меншы (хоць, здавалася б, — куды ўжо менш!) Лёша. Яны да таго асіміляваліся, што ўжо ўспрымаюць сябе як адзінае цэлае. Хоць у сваяцкіх сувязях «не заўважаны». «Працуюць» па чарзе, але ў асноўным Лёша. Ён — тонкі псіхолаг, яму б трактаты пра ўласцівасці чалавечай душы пісаць. Любіць у вочы зазірнуць і сур'ёзна так, ні на што не прэтэндуючы, кранальна прашаптаць (але так, каб пачулі): «Дзядзечка (ці цётачка — у залежнасці ад сітуацыі), дай на булачку!..» Вынік у грашовым эквіваленце заўсёды (ці амаль заўсёды) перавышае цану булачкі, і тады горды Лёша купляе сабе марожанае. Рэдка, праўда, але купляе. Лёша «працаваў» ужо двойчы, таму я ўпотай пазіраю ў той бок, дзе прысеў Дзіма, і бачу, што той пачаў падрыхтоўчыя дзеянні, калі гаварыць па-ваеннаму — своеасаблівую рэкагнасцыроўку. Страляе вачыма, «кліента» вышуквае. Ну вось, знайшоў! Дзіма ўстае, падыходзіць да добра апранутага мужчыны і, тузаючы яго за крысо футравай курткі, нешта гаворыць. Той, быццам зачараваны, лезе ў бумажнік і дае хлапчуку нейкую суму грошай. Але гэтым «дзейства» не заканчваецца — самае цікавае, як Дзіма адыходзіць: неяк увагнуўшы галаву ў плечы, гледзячы некуды ўбок. Так, відовішча не для тых, у каго слабыя нервы. У дамачак звычайна з'яўляюцца фасоліны-слёзы і трасуцца калені... Што ж, вынік дасягнуты, і хлопчыкі ненадоўга пакідаюць кафетэрый. Можа, на абедзенны перапынак, можа яшчэ куды.

*P.S. «Барсукамі» яны мне назваліся самі, калі я спытаў іх імёны. «Барсукі мы, — сказаў Дзіма (яго імя я даведаўся пазней). — У нас мамка з таткам п'юць, а мы, як барсукі, па розных норах бадзяемся».*



## «ДЗЕЦІ ПАДЗЯМЕЛЛЯ»

**Гаворачы проста — гэта тыя, хто ходзіць па электрычках у метро, напаўняючы вагон сваімі звонкімі галасамі. Прычым, калі вам удалося заўважыць, на лініі звычайна «працуе» толькі адзін своеасаблівы «нарад», які не сутыкаецца з іншымі. Хоць на гэты від заробку «мафікаў» запрашаць у прынцыпе выгадна — больш дадуць, больш жаласліва атрымліваецца. Іншы раз дзеці «працуюць» у індывідуальным разрадзе.**

Зусім нядаўна ў Мінскім метрапалітэне даволі часта з'яўлялася дзяўчынка цыганскай нацыянальнасці і заяўляла, што, маўляў, прападае без грошай, бацькі памерлі (варыянт: захварэлі, патрэбна аперацыя), дапамажыце, людзі добрыя. «Людзі добрыя» дапамагалі ёй у кожным вагоне даволі неахвотна, але чалавек пяць-шэсць усё ж субсідзіравалі галасістую сірату. Можа і на самай справе бядуе дзіця. Не спрачаюся, вядома, хапае гора і няшчасця на людскі век.

Але «мафікі» — з'ява сацыяльная. І «дзеці падзямелля (метро)» ні ў якай меры не прэтэндуюць на тое, каб называць іх прайдзісветамі ці іншымі нядобрымі словамі. Іх жа «прафесія абавязвае»! Зразумела, ёсць сярод усіх гісторый, што расказваюцца ў вагоне метрапалітэнаўскай электрычкі, і праўдзівыя. Як ёсць сапраўды няшчасныя дзеці, што сядзяць на прыступках падземных пераходаў з плакатамі і ў інвалідных калясках. Усё гэта можна зразумець. Але апраўдаць — наўрад ці. «Мафікі» ўсё адлюстроўваюць, у тым ліку і эпоху. Іншы раз палохаюць — здрыганешся ад чарговай споведзі, расказанай дзіцячым галаскам. Ды яшчэ глядзіць табе ў вочы (прычым абавязкова ў вочы) выпрабавальна і строга: маўляў, а ты чым дапаможаш?

Не ведаю як хто, а я адчуваю нейкую віну і адказнасць (на гэта і разлік). «Дзеці падзямелля» ўсё дакладна разумеюць. Яны ж з'яўляюцца не чым іншым, як параджэннем сістэмы, якую стварылі дарослыя дзядзькі і цёткі (г. зн. мы з вамі). Ім трэба спагнаць доўг. У вагоне электрычкі (метро, чыгункі), на прыступках падземных пераходаў. Адчуеце віну — палезеце ў кішэню па асігнацыі. Так прасцей.

## КАВУНЧЫК І...

**Карміцца «мафікам» дазваляюць яшчэ цёплы час і прыхільнасць да садавіны і агародніны беларускіх грамадзян. У машынах з кавунамі ці іншымі экзатычнымі прысмакамі звычайна корпаюцца некалькі «мафікаў» — зарабляюць на хлеб надзённы. Тут таксама канкурэнцыя: хто мацнейшы — той і корпаецца.**

Віцёк (адзін з суседскіх дзяцей) расказваў мне, сплёўваючы шалупінне семак пад ногі, пра свае кавуновыя заробкі. Аказваецца, усім плацяць па-рознаму: наколькі прадавец шчодры, у якім настроі будзе. Іншы раз аддаюць кавунамі. «Але гэта горш, — гаварыў Віцёк, — дадому яго цягнуць ці што?» На маё пытанне, а чаму не дадому, ён заўважыў, што ўжо чаго-чаго, а кавуноў гэтых ён наядаецца да наступнага лета. А грошы — рэч патрэбная, за іх жа можна «што хош» набыць.

У «кавуншчыкаў» (як я са здзіўленнем даведаўся) свае «верхаводы» — старэйшыя «мафікі», якім трэба аддаваць частку грошай. «Інакш будуць вялікія непрыемнасці», — па-філасофску сказаў Віцёк. «Верхаводы» з'яўляюцца, як у вядомым прыслоўі: рэдка — але метка. То кавун патрабуюць сцягнуць, то грошай. Дарослыя, натуральна, не надаюць гэтай валтузні ніякай увагі. А дарэмна. «Адзін раз пацану так заехалі па галаве палкай, што страсенне мазгоў. У бальніцы ляжаў — галава ў гіпсе, — успомніў Кавунчык (так я назваў Віцька). — А ўсё таму, што не вынес тры кавуны своечасова, вось і «ўцігамірылі».

Такія жыццёвыя перыпетыі. У бойцы з-за кавуна ці некалькіх тысяч вырастаюць будучыя «аўтарытэты». І гэта менавіта той выпадак, калі з часам звычайная палка абавязкова выстраліць аўтаматнай чаргой.

## «КАЛІ Б Я ЎБАЧЫЎ СВАЙГО БАЦЬКУ — Я Б ЯГО ЗАБІЎ!»

**Самыя кемлівыя і мазгавітыя, напэўна, «аўтамабільныя мафікі». Іх заробак навеяны часам. Гэтыя «тэхнакраты» даволі паспяхова ўлавілі тэндэнцыю да зараблення грошай з дапамогай анучы, вядра з вадой і некаторых мыйных сродкаў, устанавіўшы свой (ненадакучлівым яго наўрад ці можна назваць) сервіс. Бензакалонкі, аўтастаянкі ды і наогул усялякае месца, дзе машына спыняецца хоць бы на некалькі хвілін. Найбольш «хадавыя» месцы заўсёды «замацаваны» за «старажыламі».**

Разумныя яны хлопцы, нічога не скажаш. Напрактыкаваліся хутка і якасна мыць машыну. У любую шчыліну пралезуць, а грошы заробяць. І немалыя. Капейкамі яны грэбуюць. З адным з «аўтамабільных мафікаў» мяне аднойчы звёў выпадак. Ад яго я і даведаўся пра лёс аднаго са «старажылаў» мінскай аўтазаправачнай станцыі Н...

Бацька — невядомы. Маці — вядомая, але цвярозай бывае вельмі рэдка. Прасвятленне наступае звычайна ў хвіліны фінансавых крызісаў. Менавіта ў адзін з такіх момантаў перад будучым «бізнесменам» яго падпітай маці і яе чарговым «сябрам» была пастаўлена задача самастойнага харчавання. Яго проста выгналі з бацькоўскага дома. На вуліцы ён атрымаў самыя розныя «веды», але дадому не вярнуўся. Быў у спецпрыёмніку, потым і ў дзіцячым доме. Адтуль уцёк. Зноў бадзяўся. Потым уладкаваўся ў «аўтабізнес» (як ён гэта называе). Хутка набыў аўтарытэт, стаў «старастам», потым «старажылам». Цяпер туліцца недзе за тыя грошы, якія ўдаецца «зняць» (я наўмысна пакідаю словы «мафіка». — **М.Л.**).

«Бацьку ненавіджу з нараджэння, — гаварыў ён. — Калі б дзе-небудзь убачыў яго, дык забіў бы. На маці чамусьці зла не трымаю. Хоць менавіта з-за яе стаў беспрытульнікам. А наогул я ёй удзячны за ўсё, нават за подласць».

Яшчэ ён расказаў жудасную гісторыю, што адбылася з ім у маленстве. Маці накарміла пяцімесячнае дзіця...салам. Потым у яго вывалілася прамая кішка. Ледзь жывы застаўся. «Самагонам яна мяне паіла, каб спаў», — на дзіва спакойна расказваў «аўтамафік».

Цяпер ён працуе мала — у асноўным «па машынах» бегаюць малодшыя. Ён толькі «пажынае плады». А на пытанне аб справядлівасці адказвае, што доўгі час сам мыў машыны за паўцаны. Ну і краў крыху (г. зн. падманваў з заробкам). Але справна аддаваў частку атрыманых грошай старэйшым хлопцам. Мяркуючы па яго расказах, цяпер «пайшла нахабная моладзь». «Але я ўжо іх утаймаваць заўсёды здолею»,— усміхнуўся неяк не па-дзіцячы хлопчык. На пытанне, якім чынам, ён выцягнуў з-за пазухі новенькі газавы пісталет. Аказваецца, яго яму падарылі за «дзяжурства» (за тое, што стаяў на «шухеры». — **М.Л.**). Выпрабаваў пакуль толькі на кошках, «малых» (г. зн. малодшых таварышаў) проста пакуль палохаў. Пакуль. Але калі будуць «выраблявацца», то і стрэльне. Гэта ўжо дакладна.

## ХВОРАЕ СУМЛЕННЕ

**Усё часцей і часцей мы становімся сведкамі жудасных злачынстваў, учыненых дзецьмі. «Мафікі», апісаныя мной, — гэта толькі частка «айсберга» нелюбові дарослага да дзяцей, толькі асколак «люстэрка», што адбівае свет дарослых. У адказе за тых, хто ўступае ў жыццё, мы ўсе. Варта падумаць пра будучае. Варта.**

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# МАЛЕНЬКАГА ВІЦЮ ЗАДУШЫЛА МАЦІ

**Жыхарка адной з вёсак Воранаўскага раёна, тады яшчэ семнаццацігадовая дзяўчына, працавала на ферме даяркай і, як гэта іншы раз бывае, «нагуляла» дзіця.**

Нарадзіўся хлопчык, здаровы, нармальны Віця. Бабуля і дзядуля, у якіх жыла маладая маці, адразу палюбілі хлопчыка і ніякіх папрокаў Ірыне не выказвалі. Ды і як можна было выказаць, калі яна суткамі не начавала дома? «Паходы» да сяброўак маглі зацягнуцца нават на тыдзень. У такім узросце ёй хацелася свабоды, новых знаёмстваў, уражанняў. А таму старыя гадавалі хлопчыка, маці ж планавала чарговы вечар. І ўсё роўна маленькі чалавечак, які поўзаў па хаце, не ведаючы дакладна, хто яго мама, не даваў дзяўчыне спакою. Калі Віцю споўнілася крыху больш за паўтара года, Ірына канчаткова вырашыла, што лепшым прытулкам для яго стане дзіцячы дом. У Лідзе, куды яна павезла хлопчыка, дакладна растлумачылі, якія неабходны паперы, каб афарміць дзіця, і прапанавалі прыехаць у другі раз. І тады ў галаву маці прыйшла думка...

Позна ўвечары, калі Ірына прыехала дахаты, хлопчыка з ёй ужо не было. Старыя адразу западозрылі нешта жахлівае. На пытанне, дзе ўнук, маладая жанчына паказала ў бок Ліды, сцвярджаючы, што ён у дзіцячым доме. А праз некалькі дзён супрацоўнікі міліцыі знайшлі ў хмызняку забітага Віцю.

... Думка аб забойстве нарадзілася ў аўтобусе, на зваротным шляху, калі за вокнамі пабеглі роўныя радкі лесу. Яна выйшла з аўтобуса, і многія бачылі, як маладая маці з хлопчыкам на руках ідзе ў лес. Тасёмка ад шапачкі, якой яна пачала душыць дзіця, не вытрымала і парвалася. І тады ў ход пайшоў шнурок з дзіцячай «пустышкай»...

На допыце маці-забойца паводзіць сябе абсалютна спакойна, не можа растлумачыць, чаму ўзнікла гэта думка і як яна душыла дзіця.

**Георгій ЕЎЧАР,**
**прэс-служба Гродзенскага абласнога УУС.**

*ЗДАРЭННІ*

# А ХЛОПЧЫК «ЖАРТУЕ»

**Сем актаў тэлефоннага тэрарызму, два з якіх прыпалі на канец красавіка, зрабілі службу магілёўскіх сапёраў зусім не мёдам. Ледзь-ледзь паспелі яны абследаваць Дом друку, які абяцаў узарваць невядомы грамадзянін з паўднёвым акцэнтам, як мінашукальнікі спатрэбіліся ў СШ № 31. І ў тым, і ў другім выпадку, як, дарэчы, і ў папярэдніх, гэта былі пагрозы і толькі, бо выбуханебяспечных прадметаў не выяўлялася.**

А вось у Чавусах магло б ірвануць. Побач з вуліцай Міру будаўнікі знайшлі цэлы склад боепрыпасаў. Выклікаciv з Магілёва сапёры абясшкодзілі 105 мін і 10 снарадаў, якія ляжалі тут з часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Адзін з «тэрарыстаў» затрыманы. Ім аказаўся вучань школы, які жыве недалёка ад яе. Ведаць бы «жартаўніку», што, пакуль людзі ў ваеннай форме шукаюць тое, чаго няма, пакуль марна трацяць час пажарныя і ўрачы «хуткай дапамогі», дзесьці ходзіць сапраўдная бяда, якой толькі таго і трэба.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**



*Анатоль КЛЯШЧУК, фота аўтара*

... Дваццаць тысяч пахавальных называлі 501-ю чыгуначную вярсту паміж Оршаю і Смаленскам каля вёскі Рыленкі. Праз шмат гадоў пасля падзей вайны тут узнік мемарыял, галоўным сюжэтам якога сталі адлітыя ў метале прозвішчы, загінуўшых. Сюды ніколі не пераставалі прыязджаць людзі, лёсы якіх звязаны з гэтымі прозвішчамі на плітах.

Аж ёсць у Рыленках нябачны бок Перамогі — тысячы безыменных ахвяр, якім суджана ў лепшым выпадку лічыцца ў спісе прапаўшых без вестак. Яны ляжаць у навакольных балотах як непатрэбныя сведкі, і ніхто не адважыцца сказаць, што гісторыя ўсёж запатрабуе іхнія імёны на свае абеліскі.

# ЛЮДЗІ І АБЕЛІСКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

***АФІЦЫЙНА***

## БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ: ДАГАВОР АБСАЛЮТНА РОЎНЫХ

**Напярэдадні Дня Перамогі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шарэцкі прыняў пасла Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь І. Сапрыкіна па яго просьбе.**

У ходзе гутаркі былі закрануты пытанні ратыфікацыі Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Расійскай Федэрацыі і Беларусі, стварэнні Парламенцкага сходу Супольніцтва, палітычнага развіцця Рэспублікі Беларусь.

С. Шарэцкі адзначыў унікальнасць Дагавора аб утварэнні Супольніцтва, у якім дзве розныя па сваіх патэнцыялах краіны разглядаюцца як абсалютна роўныя. Ён таксама паведаміў аб тым, што ўжо 16 мая на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь намечана зацвердзіць састаў беларускіх прадстаўнікоў у Парламенцкім сходзе.

І. Сапрыкін праінфармаваў аб мерапрыемствах, якія плануе правесці Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі ў сувязі з аб'яўленым годам маршала Г. Жукава.

## БЕЛАРУСЬ—ПОЛЬШЧА: УМАЦОЎВАЦЬ САМЫЯ ЦЁПЛЫЯ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ

**8 мая адбылася гутарка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шарэцкага з Часовым Паверaным у справах Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь М. Зюлкоўскім.**

У ходзе гутаркі абмяркоўваліся пытанні міжпарламенцкіх узаемаадносінаў, стварэння дэпутацкай групы Вярхоўнага Савета Беларусі па супрацоўніцтву з польскім сеймам.

Было закранута таксама пытанне, якое датычыць выступлення С. Шарэцкага на сесіі Вярхоўнага Савета 3 мая, у якім прагучала справядлівая рэзкая ацэнка заяў лідэра Беларускага народнага фронту на мітынгу 26 красавіка, у якіх З. Пазняк імкнуўся процiпаставіць суседзяў Беларусі — Расію і Польшчу паміж сабой, яўна скажаў пры гэтым гістарычныя факты. С. Шарэцкі адзначыў, што яго выступленне не датычала сучасных беларуска-польскіх адносінаў. Яны, перш за ўсё, павінны адпавядаць пажаданням двух народаў развіваць эканамічныя, культурныя сувязі дзяржаў, умацоўваць самыя цёплыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Было выказана агульнае пажаданне, што ацэнкі выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія прагучалі ў некаторых польскіх сродках масавай інфармацыі, не паўплываюць на сяброўскія адносіны Беларусі і Польшчы і іх развіццё.

С. Шарэцкі перадаў запрашэнне маршалку польскага сейма Ю. Зыху наведаць Рэспубліку Беларусь у зручны час. М. Зюлкоўскі прапанаваў арганізаваць выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі ў польскіх сродках масавай інфармацыі. Прапанова была прынята.

13 мая адбылася тэлефонная размова С. Шарэцкага з Ю. Зыхам, у якой, у прыватнасці, узгадняліся тэрміны будучага візіту парламенцкай дэлегацыі Польшчы.

## БЕЛАРУСЬ—ЗША: РАЗВІВАЦЬ МІЖПАРЛАМЕНЦКІЯ СУВЯЗІ

**15 мая пачынаецца рабочы візіт Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шарэцкага ў Злучаныя Штаты Амерыкі.**

У ходзе візіту запланаваны сустрэчы з кіраўніцтвам кангрэса ЗША, дзярждэпартамента, іншымі афіцыйнымі асобамі. Будуць разгледжаны пытанні ратыфікацыі кангрэсам ЗША дагавора аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання, аказання Беларусі тэхнічнай дапамогі, садзейнічання ў пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы. У час наведвання штата Аёва плануецца абмеркаваць перспектывы супрацоўніцтва ЗША і Беларусі ў галіне сельскай гаспадаркі.

**Прэс-служба ВС Рэспублікі Беларусь.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 159

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

8. Ускласці персанальную адказнасць за ліквідацыю недахопаў, што выяўлены ў ходзе праверкі выканання праграмы будаўніцтва ў Дрыбінскім раёне Магілёўскай вобласці жылых пасёлкаў для грамадзян, якія перасяляюцца з зон радыеактыўнага забруджвання, на міністра архітэктуры і будаўніцтва Навіцкага Г. В., міністра па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Кеніка І. А., міністра фінансаў Дзіка П. У. і старшыню Магілёўскага аблвыканкома Кулічкова А. М.

9. Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва, Міністэрству па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС утварыць дзяржаўную камісію па прыёмцы жылля ва ўсіх шасці пасёлках для грамадзян, якія перасяляюцца з зон радыеактыўнага забруджвання ў Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці.

Аб выніках работы камісіі інфармаваць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь да 5 жніўня 1996 г.

10. Матэрыялы праведзенай у Магілёўскай вобласці праверкі перадаць у Пракуратуру Рэспублікі Беларусь для прыняцця мераў у адпаведнасці з законам.

11. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Службу кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (Дамашкевіч М. Ф.) і галоўнае ўпраўленне кадравай палітыкі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (Белкіна Т. А.).

12. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

6 мая 1996 г. г. Мінск.

## НА «ГАРЫЗОНЦЕ» БУДЗЕ ПРЭЗІДЭНЦКІ САВЕТ ПРАЦОЎНАГА КАЛЕКТЫВУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Выступаючы перад рабочымі ВА «Гарызонт», А. Лукашэнка расказаў і аб выніках паўтарагадзіннай нарады з кіраўніцтвам аб'яднання, якая адбылася пасля наведвання цэхаў. У прыватнасці, Прэзідэнт падкрэсліў, што збіраецца правесці сур'ёзную размову не толькі з кіраўніцтвам завода, але і з членамі ўрада. З гэтай нагоды літаральна сёння ў Кабінеце Міністраў адбудзецца нарада, тэмай якой стане сітуацыя на «Гарызонце». Дарэчы, учора А. Лукашэнка выказаў сур'ёзны папрок у адрас першага намесніка міністра прамысловасці сп. Галко. А. Лукашэнка паведаміў таксама, што ўсклаў персанальную адказнасць за арганізацыю і выкананне мерапрыемстваў па вываду ВА «Гарызонт» з крызіснага становішча непасрэдна на віцэ-прэм'ера Васіля Далгалёва. Яшчэ адзін крок, накіраваны на паляпшэнне становішча, заключаецца ў стварэнні на аб'яднанні прэзідэнцкага савета працоўнага калектыву, які будзе складацца з рабочых і спецыялістаў прадпрыемства і будзе звязаны непасрэдна з віцэ-прэм'ерам, а праз яго — з Прэзідэнтам. Па словах кіраўніка выканаўчай улады, падобнае двайное кіраванне ў хуткім часе будзе ўведзена на іншых буйных прадпрыемствах, якія знаходзяцца ў крызісным становішчы. У заключэнне А. Лукашэнка дадаў: «Як бы мяне ні папракалі, я прыйшоў да высновы, што патрэбна ўсё шырэй уводзіць дзяржаўнае рэгуляванне».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***РЭХА ПАДЗЕЙ 26 КРАСАВІКА***

# ПАД КРЫМІНАЛЬНУЮ АДКАЗНАСЦЬ ТРАПІЛІ ЎЖО 9 ГРАМАДЗЯН

Як паведаміў «Звяздзе» супрацоўнік пракуратуры г. Мінска, які папрасіў не называць яго імя, на 13 мая колькасць грамадзян, якія падпалі пад крымінальную адказнасць за арганізацыю і ўдзел у падзеях, звязаных з парушэннем грамадскага парадку падчас несанкцыяніраванага шэсця 26 красавіка, — дасягнула 9 чалавек. Да Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка, абвінавачанне якім было прад'яўлена адпаведна 4 і 7 мая, дабавілася сем грамадзян Украіны, якія раней панеслі адміністрацыйную адказнасць за свой удзел у «Чарнобыльскім шляху». Ім абвінавачанні былі прад'яўлены ў перыяд з 6 па 8 мая. Супрацоўнік Мінскай гарадской пракуратуры паведаміў, што як беларускім, так і ўкраінскім грамадзянам інкрымінуецца артыкул 186-3 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Арганізацыя або актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, што парушаюць грамадскі парадак». Адказнасць паводле гэтага артыкула прадугледжваецца ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў, або папраўчых работ на тэрмін да двух гадоў, або штрафу. Час следства павінен закончыцца ў канцы чэрвеня, у ліпені чакаецца перадача спраў у суды.

На пытанне, чаму сярод дзесяткаў тысяч людзей, якія ўдзельнічалі ў несанкцыянiраванай акцыі, у следства выбар паў менавіта на Сіўчыка, Хадыку і 7 грамадзян Украіны, супрацоўнік гарадской пракуратуры Мінска зазначыў, што менавіта Юрый Хадыка звяртаўся з заявай аб правядзенні мітынгу і шэсця і яму было адмоўлена ў праве правядзення шэсця, таму ён, як і Вячаслаў Сіўчык, былі на вачах следства як актыўныя арганізатары забароненых акцый. Ён не выключыў таксама, што да крымінальнай адказнасці могуць быць прыцягнуты і іншыя грамадзяне, калі ў ходзе следства будзе выяўлена іх віноўнасць ва ўчыненні крымінальных злачынстваў. Як гэта і адбылося з сямю грамадзянамі Украіны, што адбывалі свае адміністрацыйныя тэрміны пакарання. У прыватнасці, следствам было ўстаноўлена, што гэтыя сямёра грамадзян Украіны падчас мітынгу ля Палаца спорту ў саставе групы грамадзян выйшлі на праезную частку праспекта Машэрава і перакрылі рух грамадскага транспарту, на патрабаванні міліцыі вызваліць праезную частку адказалі адмовай, зневажалі работнікаў праваахоўных органаў. Гэта, такім чынам, першы матыў для арышту сямі ўкраінскіх грамадзян і іх крымінальнай адказнасці, астатнія будуць выяўлены следствам па відэазапісах і іншых матэрыялах. Тое, што яны ўжо былі адзін раз (адміністрацыйна) пакараны за свае ўчынкі, на думку ананімнага супрацоўніка Мінгарпракуратуры, не мае значэння: «Адміністрацыйная адказнасць, паводле нашага заканадаўства, не выключае крымінальнай».

Як вядома, Ю. Хадыка і В. Сіўчык, а таксама, паводле інфармацыі, атрыманай 13 мая ў пасольстве Украіны, адзін з арыштаваных грамадзян Украіны, Сяргей Патапаў, працягваюць у следчым ізалятары па вуліцы Валадарскага галадоўку пратэсту. Цягнецца яна ўжо больш за паўмесяца і становіцца небяспечнай для здароўя. Паводле слоў супрацоўніка Мінскай пракуратуры, ніякіх пісьмовых заяў з нагоды сваёй галадоўкі Хадыка і Сіўчык не рабілі, а галадоўку аб'явілі вусна, не патлумачыўшы пэўным чынам матывы гэтага рашэння. «Гэта іх права», — зазначыў супрацоўнік пракуратуры Мінска і паведаміў, што яны знаходзяцца пад медыцынскім кантролем, а стан іх здароўя, паводле ягоных звестак, не выклікае апасенняў. Ён таксама падкрэсліў, што ў Хадыкі і Сіўчыка, а таксама ў часткі ўкраінскіх грамадзян, якія выказалі на гэта сваю згоду, ёсць адвакаты, дапушчаныя да справы і ўдзельнічаюць у следчых дзеяннях, допытах. Маюць права наведаць арыштаваных таксама святары, аднак, паводле слоў супрацоўніка пракуратуры, пісьмовых заяў ад іх саміх, ад родных ці адвакатаў арыштаваных не было, быў толькі тэлефонны званок уніяцкага святара айца Яна Матусевіча, які выказаў жаданне наведаць сваіх парафіян, але за гэтым званком афіцыйнага звароту не было.

Наконт шматлікіх зваротаў аб змяненні меры стрымання ў адносінах да 58-гадовага вучонага Юрыя Хадыкі, у тым ліку ад намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Г. Карпенкі, супрацоўнік Мінскай пракуратуры зазначыў, што меру стрымання вызначае пракурор і што гэтыя звароты будуць разгледжаны.

Супрацоўнік мінскай пракуратуры, адказваючы на пытанні «Звязды», зазначыў таксама, што ў ходзе разгляду крымінальнай справы, узбуджанай па факту падзей 26 красавіка, будзе дадзена і прававая ацэнка дзеянняў у гэты дзень сіл аховы правапарадку. Але пакуль трэба высветліць як, пры якіх абставінах тымі ці іншымі грамадзянамі былі атрыманы цялесныя пашкоджанні, або яны былі затрыманы беспадстаўна. Будуць дапрошаны ўсе адміністрацыйна затрыманыя ў той час грамадзяне. Паводле перакanання названага супрацоўніка, усе падобныя прыкрыя моманты трапяць у поле зроку пракуратуры і атрымаюць прававую ацэнку. Аднак пакуль што аб гэтым гаварыць рана — ідзе следства. Вядома толькі, што колькасць асоб, што пацярпелі ад сіл аховы правапарадку, звярнуліся ў пракуратуру і атрымалі накіраванне на судова-медыцынскую экспертызу, паводле слоў супрацоўніка Мінгарпракуратуры, складае каля дзесяці чалавек.

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» консул пасольства Украіны ў Беларусі Усевалад Калоцій, сярод сямі арыштаваных украінскіх грамадзян двое хворых на розныя хваробы, у тым ліку на астму, а трэці працягвае галадоўку. Консул выказаў просьбу да беларускіх уладаў аб пастаянным медыцынскім кантролі за іх здароўем. Консул не паведаміў, ці ўсе арыштаваныя ўкраінскія грамадзяне з'яўляюцца членамі арганізацый УНА—УНСО, пад чыімі сцягамі частка ўкраінцаў удзельнічала ў акцыі 26 красавіка: «Мы не падходзім да іх з такіх пазіцый, з'яўляюцца яны членамі УНА—УНСО ці не, мы адносімся да іх як да грамадзян Украіны», — зазначыў Усевалад Калоцій.

Тым часам у штаб-кватэры БНФ вядуць збор подпісаў у падтрымку арыштаваных, за вызваленне іх з-пад варты. Сабрана ўжо некалькі тысяч подпісаў. Жонкі Ю. Хадыкі і В. Сіўчыка, В. Зімніцкая і Г. Сіўчык, разам з іншымі спачуваючымі праводзілі паблізу следчага ізалятара пікеты, за што яны ўжо атрымалі папярэджанні ад міліцыі. На 14 мая намечана правесці пікет у падтрымку арыштаваных ля прэзідэнцкай рэзідэнцыі, аднак не ўдалося высветліць, хто ж арганізоўвае гэты пікет. 9 мая адбыўся сойм БНФ, які выказаў падтрымку арыштаваным і звярнуўся да Хадыкі і Сіўчыка з просьбай прыпыніць галадоўку, якая становіцца небяспечнай.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Савет Еўропы нам патрэбен. А ці патрэбны мы яму?

**Вярнуўшыся з пасяджэння сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі Ю. Малумаў, П. Краўчанка, С. Калякін расказалі журналістам пра сваю работу там і ўражанні.**

— На першым месцы для нас было вырашэнне арганізацыйных і палітычных пытанняў, звязаных з уступленнем Беларусі ў Савет Еўропы, — сказаў Юрый Малумаў, намеснік Старшыні ВС. — Гэтаму была прысвечана наша работа ў камітэтах і групах ПАСЕ.

Аднак, як зазначыў Ю. Малумаў, беларускай дэлегацыі два дні давялося патраціць на тое, каб растлумачыць еўрапейскім парламентарыям, што мы застаёмся суверэннай дзяржавай і што наша жаданне стаць членам СЕ канчатковае і беспаваротнае. Прычынай гэтаму паслужыла недастатковая інфармаванасць у Еўропе аб сутнасці дагавора ад 2 красавіка паміж Расіяй і Беларуссю. Інфармацыя на Захадзе пра нас вельмі негатыўная, тэндэнцыйная, аднабаковая, заключыў Ю. Малумаў.

Беларускія парламентарыі сустрэліся са старшынёй ПАСЕ Лені Фішэр, патлумачылі ёй дагавор ад 2 красавіка і абмеркавалі далейшую тактыку па ўступленню Беларусі ў Савет Еўропы. Былі таксама сустрэчы з генеральным сакратаром СЕ Даніэлем Таршысам, экспертамі, у камітэце краін — не членаў СЕ, у палітычных групах... П. Краўчанка наведаў групу сацыялістаў, С. Калякін — аб'яднаных левых, В. Шаршуноў — народных еўрапейскіх партый (правы блок). Былі таксама двухбаковыя кантакты з дэлегацыямі Расіі, Арменіі, Польшчы. Актыўны ўдзел беларуская дэлегацыя прыняла ў абмеркаванні праблем чарнобыльскай катастрофы, якое адбылося на ПАСЕ 26 красавіка. П. Краўчанка ў гэты дзень выступіў на сесіі Парламенцкай асамблеі і распрацаваў праект звароту па чарнобыльскай праблеме, які падпісала 38 парламентарыяў з розных краін.

— У нас ёсць шанц уступіць у Савет Еўропы ў пачатку 1997 года, — заявіў П. Краўчанка. — І эксперты, і дакладчыкі настроены станоўча. Але гэта не азначае аўтаматычнасці.

На думку П. Краўчанкі, Беларусі трэба ўступаць у Савет Еўропы, каб стварыць у нас сучаснае еўрапейскае заканадаўства, адладзіць падзел паўнамоцтваў і ўзаемадзеянне трох галін улады, дасягнуць існуючых стандартаў у галіне аховы правоў чалавека, сацыяльнай абароны, развіцця культуры і навукі. Ю. Малумаў, якога П. Краўчанка назваў большым за сябе незалежнікам у гэтым пытанні, зазначыў таксама, што Беларусі выгадна стаць членам СЕ, і таму гэтага трэба дабіцца, што Беларусь дасягнула поспехаў у знешняй палітыцы на Усходзе і іх трэба падмацаваць такімі ж поспехамі на Захадзе...

— Савет Еўропы — гэта тое месца, куды Беларусі варта ўступіць, каб як мінімум мець трыбуну для выступленняў і рухаць наперад вырашэнне нашых праблем, — адзначыў С. Калякін. Акрамя таго, С. Калякін заявіў, што СЕ — гэта вялікі бюракратычны механізм, што яму ўласцівы двайныя стандарты, што вядучую ролю там іграюць краіны «вялікай сямёркі».

— А ў цэлым нікога там мы не хвалюем, на нашу пазіцыю не звяртаюць увагі... Мы самі вінаваты, што не ўмеем працаваць, — канстатавалі, у рэшце рэшт, дэпутаты.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Дэмакратыя... З чым яе ядуць?

## Нататкі пасля семінара «Школа дэмакратыі і самакіравання»

**С ПАЧАТКУ пра арганізатараў гэтага цікавага мерапрыемства. Ім сталі фундацыя развіцця дэмакратыі мясцовай у Польшчы, а канкрэтна — адукацыйны цэнтр у Шчэціне, і беларускі партнёр — Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі. Праграма семінара ажыццяўлялася па праекту еўрапейскай праграмы TACIS.**

### Як Фонд імя Л. Сапегі сфарміраваў групу

Трэба сказаць, што ў кіраўніка групы, каардынатара праграм фонду Андрэя Завадскага былі некаторыя сумненні наконт таго, як ён падабраў людзей для семінара. У састаў групы былі ўключаны народныя дэпутаты, выкладчыкі вышэйшай школы, а таксама студэнты і прадстаўнікі нядаўна створанай Мінскай асацыяцыі «Свабоднае слова».

Што выклікала сумненне? Вельмі розныя ўзроставыя параметры ўдзельнікаў, прафесіянальная стракатасць. Калі вобразна, то гэта бацькі і дзеці, настаўнікі і вучні разам. Толькі ў Шчэціне мы змаглі пабачыць адзін аднаго і пазнаёміцца, бо ехалі з Мінска, Гродна і Брэста. Але далейшая сумесная работа пацвердзіла, што ў дадзеным выпадку менавіта такі састаў групы абумовіў плённасць вучобы, яе выніковасць. Бо сучаснае беларускае грамадства — зусім не аднародная маса. Як мы ўжо пераканаліся, ажыццяўляць перамены, рухацца наперад, будаваць дэмакратычнае грамадства можна толькі пры ўмове ведання «агульных правілаў руху», законаў дэмакратыі. Бо дэмакратыя — гэта не проста свабода і магчымасць кожнаму рабіць усё што хочацца.

### Як з намі працавалі

Пшэмыслаў Фенрых, кіраўнік праекта і апякун групы, быў вельмі задаволены, калі аказалася, што нам для заняткаў не патрэбны перакладчык. У брэстаўчан і гродзенцаў — увогуле праблем з мовай не было. А мінчане толькі папрасілі выкладчыкаў размаўляць марудна.

Пан Пшэмыслаў — па прафесіі педагог, займаецца журналістыкай і грамадскай дзейнасцю. Асаблівую павагу выклікала ва ўсіх тое, што пан Пшэмыслаў у свой час пацярпеў за дэмакратыю: 11 месяцаў знаходзіўся за кратамі. Было гэта, калі ў Польшчы толькі пачынала сваю дзейнасць «Салідарнасць». З таго часу, як лічыць пан Фенрых, у Польшчы многае змянілася. Палякі ўжо прайшлі пэўны кавалак шляху да дэмакратыі. Але адразу пасля «разводу» з сацыялістычнай сістэмай узнікала мноства праблем. Адна з іх была ў тым, што людзі не ўмелі карыстацца дэмакратыяй. І таму бясконца рабілі памылкі.

Напэўна, нездарма першая лекцыя, прачытаная для беларускіх слухачоў, называлася так: «У чым сэнс дэмакратыі?» Увогуле лекцый было няшмат. Доктар Базыль Баран і Рэната Качыньска пазнаёмілі з асновамі калектыўнага прыняцця рашэння ў дэмакратыі. Усе астатнія заняткі на працягу тыдня былі пабудаваны як практыкаванні, насілі практычны характар. Вось, скажам, заняткі па тэме «Рысы дэмакратычнага грамадскага дзеяча». Пан Пшэмыслаў, які працаваў з намі па індывідуальнай методыцы, даў заданне групе выбраць з 25 прапанаваных ім рысаў, якімі павінен валодаць лідэр грамадскі ці лідэр самакіравання, 5 найбольш важных і абгрунтаваць іх выбар. Акрамя кампетэнтнасці, прафесіяналізму, камунікатыўнасці, умення слухаць партнёраў і людзей, сярод якіх дзейнічае, лідэр, па вызначэнню беларусаў, павінен яшчэ быць здольны да кампрамісу і абапірацца ў сваіх дзеяннях на нязменныя каштоўнасці.

Праблема лідэра надзвычай актуальная для Беларусі. Лідэрамі, як вядома, не нараджаюцца, імі становяцца. Нарэшце, лідэраў стварае асяроддзе. Сённяшнія лідэры ў Беларусі — шмат у чым прадукт старых часоў. І дзейнічаюць яны, як правіла, па старых стэрэатыпах. А вось новыя лідэры, тыя, хто возьме кіраўніцтва ў краіне ў розных сферах у свае рукі заўтра — цяпер яшчэ студэнты і школьнікі. Праграма TACIS «Школа дэмакратыі і самакіравання», прынамсі, улічвае гэты факт. І прадугледжвае вучобу яшчэ для дзвюх груп студэнтаў і школьнікаў з Беларусі, а таксама цесную каардынацыю маладзёжных груп з нашай групай.

Што тут маецца на ўвазе? А тое, што менавіта наша група на практычных занятках склала праграму будучага «шкалення» ў Шчэціне для беларускай моладзі, распрацавала канцэпцыю метадычнага дапаможніка па асновах дэмакратыі і самакіравання. Юрысты і выкладчыкі вышэйшых навучальных установаў, што ўваходзяць у нашу групу, выкарыстоўваючы пакет адпаведных заканадаўчых дакументаў і ўлічваючы асаблівасці развіцця дэмакратыі ў Беларусі, у бліжэйшы час падрыхтуюць такі дапаможнік-даведнік. Чаму ён неабходны? Ды таму, што дасць патрэбную інфармацыю перш за ўсё тым, хто мае схільнасці да грамадскай і палітычнай дзейнасці, хто неабыякавы да будучыні краіны.

Пан Пшэмыслаў быў задаволены заняткамі з нашай групай. Задума яго — працаваць разам са слухачамі — удалася. У працэсе заняткаў, так званых інтэграцыйных гульняў, зусім не адчувалася ўзроставай розніцы. Наадварот, тут вучыліся знаходзіць агульную мову, авалодвалі метадамі вырашэння канфліктаў і дасягнення кансенсусу.

Шмат карыснага дало знаёмства з сістэмай арганізацыі дзяржаўнай улады ў Польшчы, з функцыянаваннем мясцовай улады, дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі, прынцыпамі паводзінаў перад тэлекамерай.

### З гутарак з выкладчыкамі Шчэцінскага адукацыйнага цэнтра і ўдзельнікамі семінара

***Дамінік ГУРСКІ, дырэктар адукацыйнага цэнтра:***

**— Пан Дамінік, мы толькі што на занятках у цэнтры шмат гаварылі пра ідэальнага лідэра. Наколькі адпавядаюць гэтым стандартам былы і цяперашні лідэры Польшчы?**

— У Валенсы і Квасьнеўскага розныя тэмпераменты. Але яны абодва маюць агульную рысу — не любяць прызнаваць сваіх памылак. Кожны з іх мае сваіх прыхільнікаў у грамадстве. Таму і грамадства падзялілася. Квасьнеўскі ў параўнанні з Валенсам больш прафесіянальны лідэр, які выдатна ведае, як здабыць прыхільнасць і падтрымку людзей. Валенса больш харызматычны, імпульсіўны. У іх розныя падыходы да лідэраў іншых дзяржаў. У Валенсы самаробная харызма, а ў Квасьнеўскага — усё набытае, штучнае.

**— Якія лідэры імпануюць вам?**

— Я люблю лідэраў адкрытых, якія ўмеюць прызнавацца ў сваіх памылках, адказных. Галоўнае, каб лідэр працаваў на грамадства. Такімі я бачу лідэраў XXI стагоддзя.

**— Якое ўражанне склалася ад беларускай групы?**

— Беларусы вельмі хутка вучацца. Яны адкрытыя, шчырыя. Ваш народ, я ведаю, мае вялікія традыцыі гістарычнай свядомасці, нягледзячы на тое, што яна метадычна знішчалася тымі, хто хацеў скарыць і заваяваць беларусаў. У вас ёсць воля і жаданне, магчымасці для пабудовы адкрытага грамадства.

***Пан ПШЭМЫСЛАЎ Фенрых, кіраўнік праекта:***

— Для нас сёння з'яўляецца вельмі важнай справай падтрымка беларускасці. Мы хочам мець на Усходзе ад польскай мяжы сяброўскі, еўрапейскі народ, з якім нам трэба будзе будаваць будучыню.

***Наталля МАЛІНОЎСКАЯ, выкладчыца гісторыі мастацтваў у дзіцячай мастацкай школе, студэнтка 5-га курса факультэта беларускай філалогіі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта:***

— Было заключана пагадненне наконт гэтай праграмы. Яна даволі шырокая, ахоплівае вялікую колькасць людзей. Зараз адбываецца навучанне выкладчыкаў, дэпутатаў, потым прыедуць дзве групы моладзі. Летам усе тры групы сустракаюцца ў Шчэціне.

Мэта семінара ў тым, каб падрыхтаваць кадры, якія змогуць ажыццяўляць новыя падыходы ў дэмакратычным кірунку. У заключэнне ў Беларусі пройдуць трохдзённыя семінары, дзе моладзь і школьнікі пазнаёмяцца з напрацоўкамі і вопытам работы трох груп беларусаў у адукацыйным цэнтры ў Шчэціне.

***Алесь ПАГУЛЯЕЎ, студэнт 5-га курса факультэта гісторыі культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, член Асацыяцыі маладых навукоўцаў:***

— Я мог бы сказаць пра сябе, што я — сацыяльна занепакоены чалавек. Зараз у Беларусі шмат праблем з дэмакратыяй. Таму моладзі ў перспектыве давядзецца ўзяць на свае плечы нялёгкую спадчыну. У нашай краіне існуе рух «Моладзь Беларусі на мяжы стагоддзяў». Я магу сказаць, што пераважная большасць маладых — за незалежную Беларусь, інтэграваную ў еўрапейскую супольнасць. Але праблема ў тым, што гэтая моладзь даволі індыферэнтная да ўсіх тых працэсаў, што адбываюцца ў грамадстве. Маладзёжныя лідэры маюць празмерныя амбіцыі, яны хочуць без усякай прафесіянальнай падрыхтоўкі дасягнуць мэты. Да ўсяго гэтага — яны яшчэ і адарваныя ад масаў.

***Галіна ДЗЕРБІНА, дацэнт Беларускага недзяржаўнага інстытута правазнаўства, юрыст:***

— Мне здаецца, што праграма навучання беларусаў павінна быць больш скіравана на нашу мадэль. Увесь час, калі мы пазнавалі прынцыпы дэмакратыі, практыкаваліся, я міжволі задавала сабе пытанне: «А што ж канкрэтна трэба рабіць нам, тым, хто жыве ў краіне, дзе ў Канстытуцыі запісаны ўсе асноўныя правы чалавека і дзе законам, тым не менш, з лёгкасцю маніпулююць? Як нам дасягнуць агульнадэмакратычнага стандарту?»

**... З Варшавы ўдзельнікі семінара раз'язджаліся ў розныя кропкі Беларусі. Тыдзень, праведзены разам, удалечыні ад радзімы, даў цудоўную магчымасць паглядзець на сябе і праблемы сваёй краіны як бы збоку, абстрагавана, а разам з тым за гэты тыдзень кожны з нас яшчэ мацней усвядоміў сваю знітаванасць з Бацькаўшчынай і асабістую адказнасць за тое, што ў нас адбудзецца, і што, магчыма, не адбудзецца.**

**На думку каардынатара праграм Фонду імя Льва Сапегі, Андрэя Завадскага, праграма TACIS, якая нядаўна пачала ажыццяўляцца на Беларусі, павінна тут умацоўвацца.**

**Таццяна АНТОНАВА.**

# Беларусь — аазіс для піратаў XX стагоддзя?

**Ці задумваліся вы калі-небудзь, чаму, напрыклад, кампакт-дыск любімага выканаўцы ці відэафільм у Мінску можна купіць намнога танней, чым у Лондане, Парыжы ці любым іншым заходнееўрапейскім горадзе? Так, менавіта таму, што мы купляем не арыгінал, а пірацкую копію, зробленую невядома на якім абсталяванні і з парушэннем усіх аўтарскіх правоў. Прасцей кажучы, мы купляем тое, што было ўкрадзена. Ва ўсім свеце гэта з'ява кваліфікуецца як пірацтва.**

Беларусь у гэтым плане з'яўляецца своеасаблівым аазісам для гэтых «піратаў XX стагоддзя». Бо у Заходняй Еўропе з пірацтвам пачалі змагацца яшчэ ў 70-я гады. Прычын для яе пачатку было многа. Іх можна было разбіць на тры катэгорыі: эканамічныя, сацыяльныя і культурныя.

Эканамічныя прычыны ляжаць на паверхні, і іх важнасць залежыць ад маштабаў і ўзроўню развіцця ўсёй гука- і відэазапісвальнай галіны. Калі ўзяць толькі музычны бізнес, то ён, пачынаючы з 70-х гадоў, у Еўропе развіваецца вельмі хуткімі тэмпамі. Напрыклад, у 1992 годзе было прададзена музычных запісаў на суму 10,5 млрд. долараў ЗША. У 17 краінах Заходняй Еўропы налічваецца ўжо больш як 2000 кампаній, занятых вытворчасцю і распаўсюджваннем музычнай прадукцыі.

Гэта галіна ўносіць прыметны ўклад у развіццё еўрапейскай музычнай культуры, рэінвесціруючы звыш 15 працэнтаў абаротных сродкаў у вытворчасць новых музычных запісаў і тым самым забяспечваючы магчымасць кампазітарам, паэтам і музыкантам працягваць сваю творчую дзейнасць. Атрымліваецца, што распаўсюджванне пірацтва перашкаджае культурнаму развіццю. Пазбаўляючы нацыянальных аўтараў сродкаў для фінансавання сваёй далейшай творчасці, пірацтва вядзе да засілля замежнай відэа- і аўдыёпрадукцыі, прычым, часта яна не вытрымлівае ніякай крытыкі. Аб маштабах музычнага пірацтва сведчыць, напрыклад, той факт, што толькі ў 1993 годзе ў свеце было прададзена 70 мільёнаў пірацкіх кампакт-дыскаў.

Музычны бізнес не толькі дае работу дзесяткам тысяч людзей розных прафесій, але для многіх краін з'яўляецца і вельмі даходным артыкулам экспарту. У Швецыі, напрыклад, у пачатку 90-х гадоў самым буйным экспарцёрам стала група «АББА», якая забяспечыла большы аб'ём экспартных паступленняў, чым сусветна вядомы аўтамабільны канцэрн «Вольва».

Пірацтва нясе грамадству і сацыяльныя беды. Перш за ўсё гэта — рост арганізаванай злачыннасці. Музычнае пірацтва, напрыклад, часта выкарыстоўваецца крымінальнымі групамі для фінансавання сваёй дзейнасці і «адмывання» грошай. Паводле звестак брытанскіх сродкаў масавай інфармацыі, Ірландская рэвалюцыйная армія (ІРА) на 60 працэнтаў фінансуе сваю тэрарыстычную дзейнасць за кошт пірацтва. Гэта тлумачыцца фантастычнымі прыбыткамі ад такога бізнесу, бо піраты не трацяцца на пошукі маладых талентаў, маркетынг і рэкламу, а проста капіруюць і прадаюць самыя папулярныя мелодыі і фільмы. І тым самым паспяхова «канкурыруюць» з фірмамі, якія ўклалі многа сродкаў і сіл для таго, каб гэтыя мелодыі і фільмы сталі папулярнымі.

У нас у рэспубліцы барацьбу з пірацтвам прыходзіцца пачынаць з самага пачатку. І рабіць гэта лепш за ўсё апіраючыся на багаты вопыт іншых краін і Савета Еўропы. Паралельна з удасканаленнем заканадаўства і ўкараненнем тэхнічных метадаў барацьбы з пірацтвам неабходна фарміраваць грамадскую думку, раскрываць усю сур'ёзнасць праблемы пірацтва і важнасць барацьбы з ім. Такая кампанія немагчыма без удзелу ў ёй работнікаў праваахоўных органаў, супрацоўнікаў мытні.

У большасці еўрапейскіх краін для барацьбы з пірацтвам шырока выкарыстоўваюцца сродкі масавай інфармацыі, праводзяцца спецыяльныя кампаніі і заняткі, па ініцыятыве творчых саюзаў ствараюцца нацыянальныя і міжнародныя асацыяцыі і федэрацыі.

Згодна з прагнозамі нашых палітыкаў, да восені гэтага года Беларусь можа быць прынята ў Савет Еўропы і стаць 40-м членам гэтай уплывовай агульнаеўрапейскай арганізацыі. Да яе членаў прад'яўляюцца даволі жорсткія патрабаванні па забеспячэнню адпаведнасці ўнутранай палітыкі еўрапейскім нормам і стандартам, асабліва ў галіне правоў чалавека.

З гэтага вынікае, што наша магчымае членства ў Савеце Еўропы будзе мець зусім пэўныя вынікі, адным з якіх з'явіцца неабходнасць адпаведнай адаптацыі нашых унутраных законаў і ўзмацнення кантролю за іх выкананнем.

На прыкладзе Расіі мы ўжо бачым, што гэта далёка не простая праблема. Асабліва характэрная палеміка, што пачалася ў расійскай прэсе, адносна патрабавання адмяніць смяротнае пакаранне ці палепшыць умовы ўтрымання ў расійскіх турмах.

Але гэта толькі частка тых абавязацельстваў, якія вынікаюць з членства ў Савеце Еўропы. Ёсць многа іншых, якія, улічваючы нашы сённяшнія эканамічныя цяжкасці, бачацца неістотнымі і таму застаюцца без увагі.

**Мікалай ЛЯПЕШКА,**
**начальнік упраўлення МЗС Беларусі.**

## У ДАПАМОГУ ДАЧНІКУ

# Цяпліца — за гадзіну



**Прыкладна столькі часу спатрэбіцца на тое, каб сабраць любую з прапануемых канструкцый. Пры ўмове, вядома, што ўсе дэталі будуць прызапашаны загадзя.**

Канструкцыя першай цяпліцы паказана на малюнку 1. Тоўстую палку ўбіваюць у зямлю і надзяваюць на яе канічны каўпак з празрыстай плёнкі, спецыяльна прызначанай для цяпліц (у крайнім выпадку можна выкарыстаць звычайную празрыстую поліэтыленавую плёнку). Краі каўпака замацоўваюць каменнем або цяжкім калом. Цяпер можаце садзіць у зямлю пад каўпак расаду. Некалькі такіх цяпліц-каўпакоў дыяметрам па метру або болей дазволяць на значнай плошчы вырошчваць цеплалюбівыя расліны. А калі настане сапраўднае лета і зямля добра прагрэецца, каўпак можна зняць.

Больш складаная цяпліца, паказаная на наступным малюнку, патрабуе перш за ўсё брусоў. З іх збіваюць раму і закопваюць яе ў зямлю. Далей на раму ўстанаўліваюць каркас, які можна сабраць з драўляных рэек або непрыгодных водаправодных труб.



Бакавіны і адкосы цяпліцы закрываюць празрыстай плёнкай. Тут зручна змайстраваць з плёнкі нешта падобнае на школьныя геаграфічныя карты, якія намотваюцца на круглыя палкі. Тады цяпліцу можна будзе закрываць па частках і пры неабходнасці хутка адкрываць.

## ВЫКАРЫСТОЎВАЕМ ДАРЫ ПРЫРОДЫ

### Бацвінне з крапівы

*На 1 л вадкасці — 700 г крапівы, 1 сталовая лыжка мукі, 1 цыбуліна, па 1 караню морквы і пятрушкі, 2-3 бульбіны, 2 сталовыя лыжкі алею, соль.*

Лісце маладой крапівы апарыць, перабраць, прамыць, заліць кіпенем і варыць 10 хвілін, пасля чаго адкінуць на друшляк і даць сцячы вадзе. Нарэзаць цыбулю і моркву, падсмажыць на патэльні, дадаць у канцы смажання крыху мукі. Зварыць бульбяную полiўку (да паўгатоўнасці), пакласці ў яе корань пятрушкі. У поліўку апусціць прыгатаваную моркву, цыбулю, крапіву і ўсё варыць да мяккасці. Гушчу працерці праз рэшата. Бацвінне падкісліць па смаку лімонным сокам, пасаліць. Падаць з смятанай, адвараным яйцом або грэнкамі.

### Салата з дзьмухаўцу і крапівы

*Лісце дзьмухаўцу — 60 г, лісце крапівы — 70 г, алей — 20—25 г, ядры грэцкіх арэхаў — 20 г, таматная паста або кетчуп — 30 г, соль па смаку.*

Лісце дзьмухаўцу і крапівы памыць, затым парэзаць саломкай, заправіць цёртымі грэцкімі арэхамі. Пасаліць, дабавіць алей і таматны соус.

### Салата з першацвету і морквы

*Лісце першацвету — 60 г, морквы — 50 г, арэхаў — 30 г, сіроп ягадны — 30 г, сок адной долькі лімона.*

Лісце першацвету пасля прамывання дробна парэзаць і змяшаць з нацёртай на дробную тарку морквай. Пасыпаць арэхамі, паліць ягадным сіропам і сокам лімона.

-1272-

## ПАРАДЫ НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

# Гэта вам, «акулярыкі»



**Наступныя парады прызначаны для людзей, якія вымушаны карыстацца акулярамі ў штодзённым жыцці. Парады ў асноўным для тых, хто носіць акуляры нядаўна, бо тыя, хто носіць іх даўно, відаць, ужо знаёмы з імі. Размова пойдзе аб тым, як падабраць прыгожыя акуляры да твару, тым больш, што важна не толькі паляпшэнне зроку, але і знешняя прыгажосць «акулярыкаў».**

- Трохвугольнаму твару з выступаючымі скуламі і вострым падбародкам падыдуць акуляры ў форме матылька, у якіх верхні край аправы шырэй за ніжні.
- Да круглага твару лепш падабраць буйныя акуляры геаметрычнай формы з тонкімі дужкамі, але ні ў якім разе не круглыя, што паўтараюць форму твару.
- Твару шырокаму ў вобласці скул і сярэдняй часткі з рэзка выражанымі вугламі ніжняй сківіцы падыдуць буйныя акуляры плаўнай (авальнай) формы.
- Авальнаму твару падыходзіць любая аправа.
- З дапамогай акуляраў можна аптычна ўкараціць доўгі нос, калі насіць іх крыху ніжэй. Кароткі нос лепш выглядае, калі перамычка знаходзіцца высока.
- Людзям з цёплым, персікавым адценнем скуры больш падыходзіць жоўтая аправа. А сярэбраная і чорная — калі скура белая, колеру слановай косці або з крэмавым адценнем.
- Бландзінкам трэба пазбягаць занадта цёмнай аправы і аправы светла-ружовых тонаў, якая зліваецца з колерам твару.

**У заключэнне некалькі практычных парад**

- Шкло акуляраў можна пачысціць, калі працерці яго з абодвух бакоў ватным тампонам з кропляй гліцэрыны, а потым сухой чыстай фланеллю.
- Каб шкло акуляраў не запацявала, яго змазваюць сумессю з 3 частак гліцэрыны, 7 частак вадкага мыла і некалькіх кропель шкіпінару, а затым праціраюць чыстай фланеллю.




- Тонкі слой мыла, калі яго нанесці на паверхню шкла акуляраў (з абодвух бакоў), а затым працерці яго мяккай анучкай, пазбавіць уладальніка акуляраў ад іх запацявання ў халоднае надвор'е.




- Ад доўгага нашэння завушнікі акуляраў разыходзяцца, і акуляры пачынаюць спадаць. Пазбавіцца ад гэтага недахопу проста. Трэба месца стыку завушнікаў і аправы апрацаваць эпаксідкай. Нанесці кроплю эпаксіднай шпаклёўкі, падціснуць яе завушынамі, адвесці іх і даць шпаклёўцы прасохнуць (гл. мал.).

-1273-

# ФІЛЬМАТЭКА

**«Руская сімфонія»**
**«Грэшныя апосталы кахання»**
**«Няма куды бегчы»**
**«Па ўзаемнай згодзе»**

Новую мастацкую кінастужку **«Руская сімфонія»** перадае на суд гледачоў кінастудыя «Ленфільм». Аўтар сцэнарыя і пастаноўшчык карціны Канстанцін Лапушанскі стаў вядомым пасля першага свайго поўнаметражнага фільма «Пісьмы мёртвага чалавека». Праўда, нягледзячы на трыумф на ўнутраных і замежных кінааглядах, карціна маладога рэжысёра ў пракаце поспеху не мела. Такі ж лёс, відаць, чакае і гэты фільм.

Аўтар прапануе ўявіць гіпатэтычны дзень Страшнага суда, у якім разам з іншымі персанажамі апынуўся герой карціны — Іван Сяргеевіч Мазарын. Кожны міжволі выбірае сабе ролю ў гэтым свеце, які гіне, у адпаведнасці з асабістым разуменнем таго, што адбываецца. Напрыклад, Мазарын адчувае сябе рускім інтэлігентам, нашчадкам гуманістычных ідэй Дастаеўскага і Талстога, а таму перш за ўсё кідаецца ратаваць гінучых дзяцей.

У галоўных ролях заняты Аляксандр Ільін, Канстанцін Лапушанскі, Кіра Крэйліс-Пятрова, Валянціна Ковель.

У Расіі знята і новая мастацкая кінастужка **«Грэшныя апосталы кахання»**. Аўтары сцэнарыя — Віктар Мярэжка і Дуфуня Вішнеўскі, пры ўдзеле Уладзіміра Дзмітрыеўскага, рэжысёры-пастаноўшчыкі — Уладзімір Дзмітрыеўскі і Дуфуня Вішнеўскі.

Апосталамі кахання называе свой народ цыганскі барон Цына, ганарыцца тым, што цыганы ніколі ні з кім не ваявалі. Ён цвёрда прытрымліваецца сваіх прынцыпаў нават у суровыя дні фашысцкага нашэсця. Ён упэўнены, што ўзяць зброю ў рукі — значыць збегчы ад лёсу, які прызначыў Гасподзь цыганам.

Аднак не суджана барону Цына і яго табару пазбегнуць сустрэчы з захопнікамі, якія лічылі цыганоў, як і яўрэяў, самымі першымі ворагамі рэйха. Немцы бяруць у палон табар Цына і накіроўваюць у канцлагер. На вачах «непрацiўленца» ворагі з дня ў дзень здзекуюцца са знявoленых толькі за тое, што яны нарадзіліся ў табары. Цына заклікае супляменнікаў да цярпення і не змяняе свае погляды нават пасля смерці малодшай дачкі, расстралянай фашыстамі.

Шлях да прасвятлення, да разумення сваёй памылкі трагічны для ганарлівага свабодалюбівага барона...

Галоўныя ролі выконваюць Валянціна Вішнеўская, Мадлена Вішнеўская, Патрына Шарказі, Вольга Азарава.

У амерыканскай мастацкай кінакарціне **«Няма куды бегчы»** прымае ўдзел легендарны Жан-Клод Ван Дам. На гэты раз ён іграе злачынцу Сэма Гілена, які збег з турмы і схаваўся на ферме маладой удавы Клайдзі Андэрсан. Пазней высвятляецца, што ён адбывае пакаранне незаслужана. Уцекача шукае паліцыя, а ён — такі ўжо ў яго характар! — адначасова ўхітраецца ўвязацца ў барацьбу з мафіяй, якая мае намер выжыць з гэтых месцаў фермераў, у іх ліку — Клайдзі. Паралельна ідзе нетаропкі лірычны расказ аб рамантычным каханні Сэма і сімпатычнай удавы, меладраматычная гісторыя яго адносінаў з сынам Клайдзі Мукі.

Пастаноўку фільма ажыццявіў рэжысёр Роберт Харман, сцэнарый напісалі Джол Эстэрхаз, Леслі Бокем і Рэндзі Фельдман.

У ЗША створана таксама мастацкая кінастужка **«Па ўзаемнай згодзе»**. Аўтар сцэнарыя — Мэцью Чэпіэн, рэжысёр — Алан Дж. Пакула.

Што ні кажы, ідэя памяняцца з суседам жонкамі (усяго на адну ноч) выглядае ці баламуцтвам, ці капрызам глыбока разбэшчанага чалавека. Эдзі Оціс не быў ні вар'ятам, ні сексуальным маньякам. Дзелавіта спытаўшы ў Рычарда Паркера, ці не хоча той пераспаць з яго жонкай, ён дзейнічаў беспамылкова. Эдзі ведаў, што яго жонка, спявачка Кей, сімпатычная кампазітару і музыканту Паркеру, не таіў, што ў сваю чаргу нераўнадушны да Прысцылы Паркер. Ён гаварыў, што няма нічога амаральнага ў гэтым абмене, што грэх адмаўляцца ад таго, чаго хочаш... І Рычард, далікатны і памяркоўны чалавек, любячы і клапатлівы муж, не ўстаяў. Ноччу ён адправіўся ў спальню Кей...

У ролях — Кевін Клайн, Мэры Элізабет, Мастрантоніо.

## МУЖЧЫНЫ, ЗАКАСАЙЦЕ РУКАВЫ

# Плітачнік — прафесія хатняя

*«Збіраюся абліцаваць ванны пакой, але ці змагу сам?»*

**М. Вярбіцкі.**

**А чаму не? Гэта цалкам мужчынскі занятак. Тут важна пачаць. А мы падкажам вам некаторыя прыёмы — з вопыту.**

1. Каб вызначыць неабходную колькасць плітак, трэба вымераць плошчу абліцоўкі сцен і падзяліць яе на плошчу адной пліткі. Атрыманую колькасць павялічыць на 10 працэнтаў з улікам магчымых пашкоджанняў плітак.

2. Для выканання абліцовачных работ неабходна мець малаток, абцугі, кельню, шпатэль, зубіла, шкларэз, шнур, адвес, ватэрпас. На што будзеце «саджаць» плітку — вырашылі? Тут ёсць варыянты. Калі сцены цагляныя і маюць даволі вялікую плошчу або патрабуюць выраўноўвання паверхні, без цэментнага раствору не абысціся. Калі ж вы маеце справу з тыпавымі блокамі, можна параіць сродкі, якія павольна сохнуць і дазваляюць навічку «паварушыць» плітку, каб улажыць яе найбольш дакладна ў рад. Гэта шпаклёўка для аўтамабільных кузаваў; густаразведзеная на натуральным пакосце фарба; клей «Бустылат» з будаўнічым гіпсам, падмешаным да гушчыні вадкага тварагу; расплаўлены бітум і г. д.

Выбралі раствор? Яго аптымальны састаў: 1 частка цэменту, 4 часткі пяску і вада. У гэтым выпадку плітку перад укладкай варта патрымаць 24 гадзіны ў вадзе. Сцяну таксама намочваюць вадой, двойчы: за некалькі гадзін да пачатку работы і непасрэдна перад укладкай пліткі.



3. Пліткі трэба ўкладваць пасля таго, як «схапіўся» раствор — праз некалькі гадзін пасля яго нанясення на сцяну. Робяць гэта так. Па вуглах сцяны прымацоўваюць дзве пліткі, а затым паміж імі нацягваюць шнур (на цвіках), які дазваляе роўна ўлажыць астатнія пліткі. Калі цэлая колькасць плітак у рад не ўмяшчаецца, іх трэба абрэзаць.

4. Плітку абразаюць наступным чынам: на верхняй паверхні робяць надрэз шкларэзам або вострым нажом; паклаўшы плітку надрэзам уверх на край стала, ударам малатка адколваюць непатрэбную частку; няроўнасці па краях абломваюць абцугамі. Надрэз адшліфоўваюць пры дапамозе тачыльнага бруска ці буйназярністай наждачнай паперы.

5. Пры абліцоўцы ніжнюю паверхню пліткі пакрываюць вадкім растворам, пасля чаго прыціскаюць да асновы (раней нанесенага раствору), якая павінна быць дастаткова роўная. Важна падкрэсліць, што якасць работы неабходна пастаянна кантраляваць адвесам (вертыкальнасць швоў) і ватэрпасам (роўнасць паверхні абліцоўкі).

-1274-

## ВАША ЗДАРОЎЕ

# Як кінуць курыць?

**Аб тым, што курыць шкодна, ведаюць усе. Тым не менш, колькасць курцоў працягвае заставацца на вельмі высокім узроўні. Папярэджанні Міністэрства аховы здароўя на пачках цыгарэт мала каго спыняюць. Нягледзячы ні на якія забароны, рэкламу цыгарэт можна бачыць цяпер паўсюдна.**

**Для тых, хто хоча кінуць курыць, наступныя нескладаныя рэкамендацыі.**

- Купіце 100 г сыру (не плаўленага), разрэжце яго на тонкія лустачкі і высушыце. Перад тым, як закурыць, пакладзіце ў рот лустачку падсоленага сыру.

Непрыемныя смакавыя адчуванні, што ўзнікаюць пры гэтым, дапамагаюць выпрацаваць адмоўную рэакцыю на курэнне.

- Калі хочацца закурыць, піце настой, прыгатаваны з 2 сталовых лыжак аўса і 1 шклянкі кіпеню. Усё неабходна двойчы давесці да кіпення.

Настойваць гадзіну, працадзіць і піць на працягу месяца па 1/3 шклянкі 5 разоў на дзень.

# Высакародны лаўр

**Вядомыя ўрачы старажытнасці з поспехам выкарыстоўвалі лаўр пры лячэнні многіх хвароб. Састаў кіслот і мінеральных рэчываў гэтай расліны садзейнічаюць павелічэнню апетыту ў аслабленых хворых і паляпшаюць стравaванне.**

Тлушчавыя і эфірныя маслы лістоў выкарыстоўваюць для прыгатавання мазі, эфектыўнай пры паралічах, рэўматызме, радыкуліце, пры запаленні мышцаў і суставаў.

Гатуюць гэту мазь наступным чынам: 30 г здробленых лістоў лаўру настойваюць у цёплым месцы на працягу 6 дзён у 20 г алею. Пасля чаго адцiскаюць, працэджваюць і змазваюць хворыя месцы.

Моцны адвар адных лістоў або разам з насеннем лаўру змешваюць са свіным тлушчам і атрымліваюць мазь, якая дапамагае пры лячэнні вашывасці і часоткі.

Калі ў вас аслаблена функцыя падстраўнікавай залозы, аналізы крыві паказваюць павышанае ўтрыманне цукру, не труціце сябе лякарствамі — і тут вам на дапамогу прыйдзе лаўр.

У невялікім тэрмасе заварыце крутым кіпенем (300 г вады) 5 г лаўровага ліста. Лекавы раствор будзе гатовы праз суткі. Паколькі для дасягнення лячэбнага эфекту вам спатрэбіцца не менш як два тыдні, лепш мець два тэрмасы.

Пакуль у адным ідзе працэс настойвання, другі гатовы да прымянення.

За паўгадзіны да яды выпівайце па 50 г лаўровай настойкі, пры схільнасці да ўнутраных крывацёкаў — не больш, чым 1 сталовую лыжку.

-1275-

# «ЗОРНЫ» ЎРАДЖАЙ ПЕРАМОГ ЛІЦЭІСТАЎ

**Выключную таленавітасць сёлета праявілі навучэнцы ліцэя пры Белдзяржуніверсітэце. Выявілася гэта ў наступным: побач з абласнымі камандамі на ўсіх прадметных рэспубліканскіх вучнёўскіх алімпіядах ліцэісты выступалі асобным калектывам.**

І вось плён. На біялагічнай алімпіядзе два дыпломы першай ступені атрымалі Іван Гарнастай і Інна Урбановіч. Мацнейшымі матэматыкамі сярод вучняў краіны сталі Аляксей Коранеў, Сяргей Шых, Міхаіл Вронскі. А ўсяго ліцэісты атрымалі 27 дыпломаў першай, другой і трэцяй ступеняў, а таксама — 6 пахвальных водгукаў.

Шэраг пераможцаў з кагорты навучэнцаў ліцэя пры БДУ стануць удзельнікамі міжнародных вучнёўскіх алімпіяд па самых розных прадметах.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# смехатэрапія

## КОНКУРС АНЕКДОТАЎ

*— Чаму сонейка раніцай такое радаснае?*

*— Таму, што ведае: ужо ўвечары будзе на захадзе.*

***

*— Хлопчык, кім ты хочаш стаць, калі вырасцеш?*

*— Іншаземцам...*

***

*— Паслухай,— звяртаецца муж да жонкі,— чаму цябе суседзі называюць ідыёткай?*

*— А што тут дзіўнага? Калі б ты быў генералам, называлі б генераліхай.*

***

*Перамераўшы не менш як два дзесяткі капялюшыкаў, пакупніца звяртаецца да прадаўца:*

*— Я, бадай, вазьму вось гэты. Колькі мне плаціць?*

*— Нікольні, мадам. Вы ў ім прыйшлі.*

***

*У гарадской лазні:*

*— Паслухайце, чаму вы стаіце пад душам з парасонам?*

*— Ды я забыўся дома ручнік!*

***

*Гаспадар!— крычыць работнік фермера. — Каровы з суседняй фермы залезлі на нашу пожню і жуюць нашу траву!*

*— Не панікаваць! — гаворыць фермер.— Не панікаваць, а даіць!!!*

***

*Настаўнік — вучню:*

*— Праспрагайце дзеяслоў «ісці».*

*— Я іду... Ты ідзеш...— мямліць вучань.*

*— Хутчэй!*

*— Ён бяжыць, мы бяжым, яны бягуць...*

***

*Стаматолага выклікаюць да тэлефона. Вярнуўшыся, ён пытаецца ў асістэнткі:*

*— Яшчэ пацыенты ёсць?*

*— Ёсць яшчэ адзін. Ён у вас у кабінеце.*

*— Чаму ж вы не рыхтуеце інструменты?*

*— Ён зачыніўся знутры.*

***

*Аб'ява па радыё на пляжы:*

*«Дама ў чырвоным купальніку з чорнымі палоскамі павінна вярнуцца ў раздзявалку. Яна забылася яго апрануць».*

**Анекдоты даслалі Людміла САДОЎСКАЯ і Валянціна БЕЛЯКОВА.**



**Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА** (Брэст).

## ДУМКАМ ЦЕСНА

- І пры вузкім кругаглядзе іншаму ўдаецца жыць на шырокую нагу.
- Калі не хапае шэрага рэчыва, нярэдка даводзіцца чырванець.
- Кожнаму — сваё, аднак не ўсякі адмаўляецца і ад чужога.
- Для жыцця ўсе сродкі добрыя, акрамя процізачаткавых.
- Нішто іншы раз не бывае такім цяжкім, як быць самім сабой.
- Пустую галаву поўным страўнікам не заменіш.
- Лягчэй з'есці таго, у каго каша ў галаве.
- Плоскія жарты нават круглым дурням не спадабаюцца.
- Іншая жанчына проста анёл, але з чартоўскімі запатрабаваннямі.
- Калі стаіш на сваім, іншы раз не ўдаецца ўсядзець на сваім месцы.
- Пакупнік заўсёды невінаваты. Аднак аб гэтым, на жаль, ведаюць не ўсе прадаўцы.
- Цягне лямку звычайна той, хто ў сваёй справе дрэнна падкаваны.
- Нішто так іншы раз не ахалоджвае адносіны, як агонь крытыкі.
- Грош таму чалавеку, які заўсёды сябе пераацэньвае.
- Іншы раз жанчыне, каб не прыкладаць максімум намаганняў, дастаткова надзець міні-спадніцу.

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК.**

Алег ГРЫЦЭНКА

## ПЛАТНЫ ТЭЛЕФОН

Усё, здзейснілася! За кожнае лішняе слова, якое ляпнуў па тэлефоне, прыйдзецца плаціць. Так што цяпер язык не да Кіева давядзе, а да падземнага перахода. Таму мужчыны цяпер, ідучы на работу, пачалі забіраць з сабой тэлефон, каб іх жонкі не сядзелі на ім гадзінамі. Аматары памалоць языком пачалі размаўляць з секундамерам у руках. І цяперашняя тэлефонная размова нагадвае спрынт са шматлікімі перашкодамі, дзе абодва бакі ў адну хвіліну выгаворваюць тое, на што раней патрэбна было цэлае жыццё.

Прычым, што цікава! Тэлефон платны паставілі (хаця асабіста ў мяне які быў, такі і стаіць), а чутнасць тая ж самая. Каб цябе пачулі, прыходзіцца па дзесяць разоў адно і тое ж паўтараць. Таму цябе прымаюць за рэха.

Крыкнеш:

— Алё!

І чуеш у адказ:

— Алё! Алё! Алё!

— Хто гаворыць?

— Хто гаворыць? Хто гаворыць? Гаворыць...

— Вас не чуваць!

— А цябе, казёл, думаеш чуваць?!

Я з сябрам па міжгораду размаўляў, пакуль ён не прыехаў да мяне дадому і не сказаў:

— Ды ты мне ў вочы скажы, чаго ты хочаш?

Ну я і сказаў, што проста хацеў яго пабачыць.

Пасля таго, як увялі плату за размовы, я цяпер пазваню каму-небудзь і кажу:

— Алё! Я цябе не чую, а хачу з табой пагаварыць — пераззвані мне. І толькі тады магу размаўляць гадзінамі. А інакш два-тры словы скажу, а больш і гаварыць баюся. Таму што маёй зарплаты якраз на тры словы і хапае...

І што цікава, як гэта яны там фіксуюць, хто на колькі нагаварыў? Яны што, падслухоўваюць, ці што? А можа, яшчэ і падглядваюць? У такім разе яны нам павінны плаціць за тое, што мы іх забаўляем сваімі размовамі. Чым больш падслухаюць — тым больш няхай плацяць!

Цікава, з глуханямых яны таксама плату бяруць? Ці дазваляюць за паўцаны пагаварыць?.. У мяне сусед-пенсіянер разоў дваццаць за месяц «хуткую» выклікаў. Але канькі адкінуў толькі тады, калі за свае званкі рахунак атрымаў! З яго запатрабавалі такую плату, быццам ён з урачом па тэлефоне сексам займаўся! І гэта на ладан дыхаючы...

Хутка, трэба думаць, услед за тэлефонам у нашых кватэрах і туалет платны зробяць. Захацеў, дапусцім, па патрэбе — бяжы ў ашчадны банк, заплаці за кожную хвіліну, а ўжо затым бяжы ў туалет. Прычым, бяжы хутка, інакш твой час можа скончыцца раней, чым паспееш дабегчы... І тады зноў прыйдзецца бегчы ў ашчадбанк і другі раз займаць чаргу за другім талончыкам...

36,6

## ІМПАТЭНТ З САУНЫ

***Непрыемная навіна для фанатыкаў сауны.***

Даследаванні іспанскіх вучоных паказалі, што вельмі працяглае знаходжанне ў такім папулярным у апошнія гады месцы можа адмоўна адбіцца на патэнцыі.

Уролаг з Мадрыда Фернанда Круз назірае за многімі пацыентамі ў сувязі з парушэннямі дзетародных функцый, прычына якіх — вельмі гарачая любоў да сауны. Упершыню ўрач звярнуў на гэта ўвагу, абследаваўшы мужа жанчыны, якая доўгі час не мела дзяцей. Яму ўдалося высветліць, што гарачыня сауны, у якой мужчына праводзіў вельмі шмат часу, здольна значна зменшыць колькасць і пагоршыць якасць спермы. І можа нават прывесці да генетычнай мутацыі. Жанчынам — аматаркам сухой гарачыні — прыходзіцца часта расплачвацца моцным крывацёкам у час месячных. Гінеколаг Алонса Відаль лічыць, што пераграванне можа таксама спыніць працэс авуляцыі (паспявання яйцаклеткі).

Даследаванні, праведзеныя ў ЗША, паказалі, што грудныя дзеці жанчын, якія часта наведваюць сауну ў час цяжарнасці, удвая часцей пакутуюць ад парушэнняў стрававання з-за перагравання ў перыяд унутрывантробнага развіцця.

Фанаты сауны — гэта часцей за ўсё людзі, якія клапоцяцца пра сваю фігуру і вагу. Аднак скіданне вагі ў сухой парыльні адбываецца за кошт выпарвання вадкасці, колькасць якой хутка аднаўляецца. Пацённе — натуральны працэс ахаладжэння арганізма. Аднак пры працяглым знаходжанні ва ўмовах вельмі высокай тэмпературы гэты працэс парушаны: нават вялікае пацённе не паспявае ахаладжаць арганізм, з потам выдзяляецца вялікая колькасць солі — парушаецца водна-салявы баланс. Пры гэтым пачынаюцца змяненні на ўзроўні клеткі, а палавыя клеткі — найбольш далікатныя. Акрамя таго, назіраецца працэс згушчэння крыві, пры якім стварэнне згусткаў найбольш верагодны. А такі згустак — першы крок да тромбаў, якія закупорваюць прасвет сасудаў.

Такі стан узнікае ў людзей, якія не акліматызаваліся ў гарачых краінах. Гэта адбываецца з паўночнікамі, якія значна часцей паміраюць летам ад цеплавых удараў, чым тыя, хто жыве на поўдні. Фіны — стваральнікі сауны, вельмі вопытныя парыльшчыкі — захоўваюць правільны рэжым чаргавання адпачынку і знаходжання ў сауне.

У Еўропе ўсё большую папулярнасць набываюць парыльні з мяккім рэжымам — так званыя хімамы. Рэжым у такой лазні складаецца з некалькіх этапаў: першы — дзесяціхвілінная працэдура пры 28 градусах, другі — у зале з тэмпературай 45 градусаў, якая паступова павышаецца да 60 градусаў. Замест прывычных нам крайнасцей — з гарачай парыльні ў халодную ваду — тут паміж заходамі прапануюць павольнае ахаладжэнне і рэгідратацыю, сумешчаную з масажам. У такой лазні тэмпература цела ніколі не перавышае 40 градусаў, і небяспекі для парыльшчыкаў або іх будучага патомства ніякай.

**Таццяна КАЗЛОВА.**

*«Огонёк».*

## БЕЛАРУСЬ БЕЗ ДЫФТЭРЫІ

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», рашэннем Кабінета Міністраў кампанія па масавай вакцынацыі насельніцтва рэспублікі супраць дыфтэрыі, якая мелася адбыцца з 13 па 23 мая, прадоўжана да 31 мая.**

Пільная ўвага ўрада краіны да гэтай небяспечнай хваробы абумоўлена крытычным становішчам, якое склалася ў рэспубліцы за апошні час: захворванне на дыфтэрыю ў рэспубліцы за апошнія 5 гадоў павялічылася ў 12 разоў. За гэты час ад дыфтэрыі памерлі 25 чалавек.

Міністэрства аховы здароўя рэспублікі сумесна з гуманітарным аддзелам Еўрапейскага супольніцтва і Міжнароднай федэрацыяй таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца для правядзення процідыфтэрыйнай кампаніі закупіла 3,5 мільёна дозаў вакцыны і аднаразовыя шпрыцы. Поўная бяспека прышчэпак гарантавана. Вакцынацыя будзе праводзіцца як па месцы пражывання і працы, так і на часовых прышчэпачных пунктах, а таксама на даму.

**Сяргей ПРОТАС.**

## САНІТАРНУЮ КНІЖКУ — НА АХОВУ ЗДАРОЎЯ!

**Падробкі запаланілі наша жыццё... Падрабляюць усё: грошы, пашпарты, праязныя дакументы, пасведчанні і г. д. Але, па вялікаму рахунку, такія фальшыўкі не могуць закрануць інтарэсы вялікай колькасці людзей. А вось падробленую санітарную кніжку можна параўнаць з мінай запаволенага дзеяння, таму што чалавек, які не прайшоў медагляд і працуе з прадуктамі харчавання, а таксама дзецьмі (напрыклад, у дзіцячых садках) уяўляе рэальную пагрозу здароўю іншых людзей.**

Пасля распаду Савецкага Саюза ў нас спыніліся цэнтралізаваныя пастаўкі санітарных кніжак адзінай формы. У апошні час для іх афармлення выкарыстоўваліся звычайныя запісныя кніжкі. Таму падрабіць гэты важны дакумент было няцяжка. Але ў Мінску, падобна, сітуацыя змянілася ў лепшы бок. Паводле інфармацыі, атрыманай у Мінскім гарадскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, знайшліся энтузіясты з малога выдавецкага друкарскага прадпрыемства БДФ, якія па ўласнай ініцыятыве ўзяліся за выраб новых санітарных кніжак, маючых не толькі салідны выгляд (па размеру адпавядаюць пашпарту, маюць чырвоную шчыльную вокладку з ціснёнымі літарамі), але і ступені абароны ад падробкі. Ды і па цане яны абсалютна даступныя — 0,1 мінімальнай заработнай платы. Распараджэннем Мінгарвыканкома № 435-Р ад 4.03.96 г. яны ўведзены ў абарот на тэрыторыі сталіцы. Старыя санітарныя кніжкі будуць замяняцца новымі паступова, у час праходжання медаглядаў. Ці праявяць да іх цікавасць іншыя рэгіёны рэспублікі, пакажа час.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».



Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2280.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12